PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (1935) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 13 ЧЭРВЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*На сенажаці.* Фота Я. Целушэцкага

## *Зладзеі дзейнічалі з дакладнасцю швейцарскага гадзінніка*

# ЗНОЎ КРАДЗЕЖ У ХРАМЕ

Пабудаваная ў 1824 годзе могільнікавая царква св. Іаана Багаслова ў Паўлах стаіць на ўзгорку, пасярод стройных векавых соснаў, дзесьці з паўкіламетра ад вёскі. Добра яе відаць з першай хаты, у якой жыве стараста Іван Якаўчук.

"Я заўсёды і паглядаю ў той бок, асабліва калі які самаход туды паедзе. Надвячоркам, управіўшыся, сядаю я ля акна, бяру бінокль і дакладна наглядаю за могілкамі. Ды і ледзь не кожны дзень я там, але падазронага нічога так і не заўважыў".

Паўлы ўваходзяць у Рыбалаўскі прыход. У царкоўцы на могілках служыцца толькі зрэдзь часу: у храмавае свята, па пакойніках і вячэрня ў кожную апошнюю нядзелю месяца. 21 мая адзначалася там прыхадское свята Івана, наступная багаслужба павінна была правіцца ў нядзелю 30 мая. Калі настаяцель Рыбалаўскага прыхода а. Рыгор Сасна прыехаў перад сёмай гадзінай на месца, па тварах людзей пазнаў, што нешта тут здарылася.

На першы погляд усё было на сваім месцы, ніякага следу ўзлому, ніякіх пашкоджанняў. Пакражы маглі б і не заўважыць, калі б не трэба было мяняць ікону на прастоле пасярэдзіне царквы з пасхальнай на храмавую (Іаана Багаслова). Не могучы яе нідзе знайсці, стараста і папячыцель Міхаіл Харытанюк упершыню прадчулі нешта благое. Калі прыгледзеліся сценам, паміж ікон убачылі пустыя цвікі. Усё стала ясна - у царкве гаспадарылі няпрошаныя госці.

Службы ўжо ў гэты вечар не было. Людзі стаялі навонкі будынка, каб не зацерці слядоў і не пашкодзіць у працы паліцыі. Гэтую апошнюю давялося аднак чакаць доўга - як выявілася, у гэты самы час людзі заўважылі ўзлом у другую царкву ў ваколіцы, у Пяценку каля Подварак. Паліцыянты з Заблудава падаліся спачатку туды, а толькі потым прыехалі ў Паўлы.

Дакладны агляд месца злачынства паказаў, што сваю справу зрабілі тут прафесіяналы. Вынялі акно ў алтарнай частцы, крату часткова перарэзалі, часткова адагнулі. Пасля сябе пакінулі прыкладны парадак, крату паставілі на месца, акно ўставілі назад.

Узялі толькі тое, што мела вялікую матэрыяльную вартасць і што не цяжка будзе прадаць: дзевяць невялікіх ікон (прыкладна 30 на 20 см) на дрэве - большасці з XVIII стагоддзя, некаторыя ў срэбных рызах - і адно напрастольнае Евагелле ў пазалочанай рызе.

"Апрача матэрыяльнай вартасці, для кожнага вернуючага хрысціяніна ікона мае вартасць духоўную, — кажа а. Рыгор Сасна, — пры чым невымяральную. Нашы людзі разумеюць, што гэта не толькі грошы, але пасведчанне веры, духоўнасці, урэшце нашай самабытнай культуры, нашай тоеснасці і прысутнасці на гэтай зямлі.

Нашы цэрквы заўсёды былі апірышчам для народу ў цяжкія часіны. У сувязі з гэтым, я не ведаю, што думаць пра гэтыя ўзломы. Вы падумайце толькі, у кожнай царкве на Беласточчыне прынамсі раз былі зладзеі. А ў гэтай паўлаўскай нават тры разы, два безвынікова, але за трэцім разам зладзеі дзейнічалі з прэцызійнасцю швейцарскага гадзінніка."

Жонка царкоўнага старасты Марыя Якаўчук пытаецца: "Бацюшка, што будзе з нашымі іконамі, няўжо не вернуцца?" І расказвае: "Сёння мы з суседкай селі ды так і расплакаліся, калі пачалі гаварыць пра здарэнне. Я зайшла потым на могілкі, а там як бы не тое месца, неяк так жудасна на душы стала".

* * *

У такіх выпадках, як апісаны вышэй, заўсёды нанова ўзнікае справа адпаведнага забеспячэння сакральных аб'ектаў. Што нашы цэрквы не забяспечаны адпаведным чынам, ведаюць і дылетанты, не гаворачы ўжо пра "спецыялістаў па мокрай справе".

Айцец Рыгор гаворыць: "У маім прыходзе чатыры цэркры і дзве капліцы. Забяспечыць усё няма проста магчымасцяў, у першую чаргу - фінансавых, але нават і тэхнічных. Правесці сігналізацыю хаця б з гэтай царкоўкі за Паўламі ў вёску - няпростая справа. Ды ці ёсць такія "алярмы" і замкі, якія прадухілілі б падобныя няшчасці ў будучыні?"

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота а. Р. Сасны**



*Царква св. Іаана Багаслова ў Паўлах.*

# НЕПАСЛУХМЯНЫ ОРГАН

Напісаць гэтыя радкі прымусілі мяне перш за ўсё словы, сфармуляваныя ў адрас „Нівы" ў справаздачы з дзейнасці БГКТ за 1986-1992 гады, якая была даручана дэлегатам XII З'езда БГКТ. У раздзеле „Выдавецкая дзейнасць" было напісана так: *На працягу мінулай кадэнцыі БГКТ падрыхтоўвала і выдавала Беларускія календары і тыднёвік „Ніва". У выніку інтрыг маладых новых беларускіх арганізацый і незвычайна „дынамічных палітыкаў" Міністэрства культуры пазбавіла таварыства „Нівы", якая на працягу трыццаці пяці гадоў была органам БГКТ. Беларускае таварыства выдавала „Ніву", як тыднёвік даступны для ўсіх беларускіх арганізацыяў, ніколі не забараняла друкаваць матэрыялаў нават вельмі для сябе непрыхільных. Сучасная „дэмакратыя" галоўнага рэдактара, праграмнай рады і некаторых журналістаў, гэта права не на крытыку, як яны тлумачаць, але безразумнае і вельмі безадказное „права" да ілгарства, вульгарнасці, маніпуляцыі псеўдаінфармацыямі, абкідвання ўвесь час граззю выдуманага працўніка. Мы не выказваемся за цэнзурай, як хоча гэта даказаць галоўны рэдактар (нават тады, калі мелі магчымасць, мы з яе не карысталі), але поўнасцю перакананы, што псеўдажурналістаў безадказнасць за слова вядзе ў маральнае балота і таму „Ніва" замест паказваць сапраўдныя праблемы з жыцця беларусаў у Польшчы, спецыялізуецца ў пляванні на дзеячоў таварыства.*

Таксама сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч для дзённіка „Kurier Poranny" сказала:„Działacze BTSK nigdy nie mieli ambicji, żeby pismem komenderować..." Сам я асабіста лічу гэтыя выказванні далёкімі ад праўды. Спробы БГКТ поўнасцю падпарадкаваць сабе „Ніву" пачаліся даволі рана, аб чым можна прачытаць у нататках рэдактара Георгія Валкавыцкага „Віры", а доказам гэтаму з'яўляюцца таксама факты-ўспаміны Уладзіміра Юзвюка „БГКТ у шасцідзесятыя гады" ў сёлетнім „Беларускім календары". У перыяд „рэальнага сацыялізму" аб канфліктах нельга было пісаць, бо абавязвала дактрына еднасці, і ўсялякія спрэчкі вырашаліся ў кабінетах партыйных сакратароў. Калі не стала арбітра, спрэчкі набылі публічны характар і выліліся на старонкі друку.

Калі пачаўся канфлікт паміж БГКТ і „Нівай"? Ён доўжыўся гадамі і быў вынікам крытычнага падыходу журналістаў да дзейнасці Таварыства. Да 1990 года „Ніва" выдавалася партыйным прэсавым прадпрыемствам RSW „Prasa-Książka-Ruch" і сувязь тыднёвіка з БГКТ мела мерытарычны характар — аб'ядноўвала іх мэта дзейнасці на карысць беларускай справе. У выніку ліквідацыі партыйнага выдавецкага канцэрна грошы на выданне „Нівы" сталі паступаць на рахунак БГКТ і тады залежнасць тыднёвіка стала не толькі духовай, але і матэрыяльнай, што дазволіла Таварыству патрабаваць ад журналісцкага калектыву поўнай паслухмянасці. У той час узніклі іншыя беларускія арганізацыі, і БГКТ перастала быць манапалістам у беларускай сферы. „Ніва", якою я тады кіраваў, хацела стаць газетай усяго беларускага асяроддзя, папулярызаваць погляды ўсіх беларускіх плыняў у Польшчы.

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Хваля бязлітаснага гангстэрызму, здаецца, дакацілася з неабсяжных расійскіх прастораў і да ціхай, талерантнай Беларусі.*

*Пазаўчора сярод белага дня ў Мінску на праспекце Машэрава выстралам з карабіна з аптычным прыцэлам быў смяротна паранены генеральны дырэктар канцэрна „Камінвест" А. Лісічук.(...)*

*Так што па ўсім відаць — на Беларусі пачалася эра крывавай барацьбы за вялікія грошы, за сферы ўплыву ў эканоміцы.*

*(М. Дзябёла, Звязда, н-р 86)*

Ды ўсё роўна Беларусь за *бязмежную* любоў з Расіяй. Пускай нас стреляют браты в троице единые.

* * *

*— На сённяшні дзень я (Станіслаў Шушкевіч — рэд.) маю вельмі прэстыжнае запрашэнне ад прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. Але гэты візіт трэба вельмі добра падрыхтаваць. А ўзаемадзеянне нашых службаў па гэтаму пытанню, на жаль, дрэннае. Без узгаднення са мной пэўныя нашы прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу заявілі, што тэрмін, прапанаваны амерыканскім бокам непрымальны. Я іх прыцягну да адпаведнай адказнасці.*

*(Звязда, н-р 85)*

Здаецца, Станіслаў Шушкевіч недалюблівае Пятра Краўчанку (міністра замежных спраў Беларусі). І vice versa. Ці гэта не сігнал якраз таго, што ў верхнім эшалоне ўлады Беларусі ўжо пачалі даваць сабе персанальныя кухталі, маючы на ўвеце змаганне за пасаду беларускага прэзідэнта?

* * *

*Польшча, Кітай, Румынія... Выпадковы пералік ці свядомы выбар прыярытэтаў Беларусі?*

*(Звязда, н-р 84)*

Ні адно, ні другое, мабыць. Станіслаў Шушкевіч ездзіць туды, куды запрашаюць.

* * *

*(...) Сітуацыя, што склалася па падпісцы на рэспубліканскія выданні па стану на 30 красавіка:*
*„Звязда" — 39.355*
*„Советская Белоруссия" — 86.477*
*„Народная газета" — 77.157*
*„7 дней" — 27.936*
*„Белорусская нива" — 23.209*
*„Рэспубліка" — 11.784*
*„Знамя юности" — 10.625*
*„Чырвоная змена" — 4.625*

*(Звязда, н-р 83)*

Ад сябе ўдакладнім: па беларуску выходзяць „Звязда" і „Чырвоная змена", „Народная газета" — двухмоўная, астатнія выданні ў спіску — расейскамоўныя.

* * *

***Напрыканцы першага квартала 1993 года насельніцтва Беларусі склала 10,3 мільёна чалавек. Урэшце ў гэтым паказчыку мы дасягнулі даваеннага ўзроўню.***

***(Чырвоная змена, н-р 40)***

* * *

***Каму служаць мясцовыя Саветы?***

***(Чырвоная змена, н-р 40)***

Мы не маем сумненняў: мясцовым саветам.

* * *

*Panowie posłowie, musimy znaleźć jakąś wspólną płaszczyznę. Myślę, że to mógłby być rock and roll.*

*(Andrzej Mleczko, Polityka, nr 22)*

Мы перадаем гэтую параду лідэрам беларускага руху на Беласточчыне. Спадары, набліжаецца „Басовішча' 93" — неблагая нагода інтэгравацца вакол рок-н-рола (і то беларускага!). Давайце ў Гарадок!

* * *

*Aleksander Barszczewski, wieloletni szef BTS-K, a zarazem przewodniczący Polskiego Towarzystwa Białorutenistycznego zarzucił "Niwie", że stosuje metody komunistyczne. Nowy przewodniczący BTS-K Jan Syczewski powiedział, że młodzi dziennikarze uprawiają krytykę na poziomie rynsztoka. Walentyna Łaskiewicz powiada, że nakład "Niwy" zmalał, a Jan Syczewski mówi wręcz o marginalizacji pisma.*

*(Kurier Poranny, nr 102)*

* * *

*W krajobrazie umysłowej prowincji coraz więcej ma do powiedzenia lump. Nie chodzi tylko o rosnącą liczebnie armię lumpenproletariatu; konsekwencję masowego bezrobocia, lecz o lumpa zmodyfikowanego. Lumpa, który poczuł się silny i narzuca swój styl, swój fason, swoją mentalność. Jego wizja świata jest prosta. Proponowane rozwiązania odwołują się do zadawnionych niechęci wobec mędrków, którzy zdolni są jedynie do mnożenia komplikacji, rozterek i wahań.*

***Mamy sporą grupę lumpen-działaczy obsługujących klientelę głuchą na argumenty.*** *Stawka na lumpa, na recydywę odruchów gniewnych i nienawistnych, dążenie do rozkołysania mas za pomocą lumpowskich tricków, lumpowskiej demagogii może przynieść organizatorom doraźne profity.*

*(Polityka, nr 22)*

## З мінулага тыдня

**Сейм**, па прапанове парламенцкага клуба „Салідарнасць" правёў галасаванне ў справе вотуму недаверу ўраду. За ухваленнем недаверу галасавалі 223 паслы з ліку 445 прысутных у зале. Супраць было 198, а ўстрымалася — 24. Ураду трэба было падацца ў адстаўку.

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** не прыняў адстаўкі ўрада **Ганны Сухоцкай** і вырашыў распусціць парламент. 31 мая „Monitor Polski" апублікаваў адпаведнае распараджэнне, што пасведчыла фактычны роспуск парламента. 1 чэрвеня прэзідэнт падпісаў новы закон аб выбарах, што дае фармальную магчымасць пачаць выбарчую кампанію. Згодна новаму закону 460 паслоў будзем выбіраць паводле прапарцыянальнай сістэмы, а 100 сенатараў — паводле большаснай. Галасаваць будзем на канкрэтнага кандыдата, а аддадзены голас будзе лічыцца на карысць партыі, якая яго прапанавала. Каб атрымаць месца ў будучым Сейме, партыі трэба будзе здабыць прынамсі 5 працэнтаў галасоў у маштабе краіны, а кааліцыям некалькіх партый — звыш 8 працэнтаў. Гэтыя варункі не датычаць арганізацый нацыянальных меншасцяў (пра ўмовы кандыдавання прадстаннікоў меншасцяў напішам у адным з найбліжэйшых нумароў).

**Прэзідэнт РП** прыняў рашэнне аб правядзенні выбараў у Сейм і Сенат **19 верасня** г.г. Дзяржаўная выбарчая камісія на апошнім пасяджэнні займалася планам працы на падрыхтовачны перадвыбарчы перыяд. Камісія — пастаянны орган, створаны прэзідэнтам. Яе мэта — нагляд за выконваннем выбарчага закону, рэгістрацыя агульнапольскіх спіскаў кандыдатаў у паслы і сенатары, устанаўліванне і аб'яўлянне зборных вынікаў, раздзел мандатаў між агульнапольскія спіскі кандыдатаў, выдаванне пасведчанняў аб выбары.

**Міністр унутраных спраў Анджэй Мільчаноўскі** выключыў магчымасць удзелу яго ведамства ў працэсе высвятлення мінулага кандыдатаў у парламент, якія — згодна новаму закону аб выбарах — будуць абавязаны скласці заяву, што не былі сакрэтнымі супрацоўнікамі спецыяльных службаў у ПНР. „Мяне абавязваюць законы аб захаванні дзяржаўнай і службовай таямніцы" — сказаў міністр.

**З набажэнства**, якое называецца „салат", пачалося ў мячэці ў **Багоніках** чатырохдзённае мусульманскае свята **Курбан-Байрам**. Прыехалі татары амаль з усёй Польшчы, а набажэнства служыў беластоцкі імам **Мустафа Стэфан Ясінскі**. Падобныя ўрачыстасці адбыліся ў **Крушынянах** каля Крынак, дзе знаходзіцца другое шматлікае згуртаванне польскіх вернікаў ісламу.

**„Чалавек і прырода"** — гэта лейтматыў конкурсу для дэкламатараў і спевакоў, арганізаванага Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры і лясными школамі ў Белавежы. З нагоды конкурсу была выдадзена анталогія творчасці вучняў мясцовых лясных школ.

**Вучні прафесіянальнай школы з Гайнаўкі** навялі парадак на старадаўнім яўрэйскім могільніку ў Нараўцы. Да нашай пары захаваліся ўсяго рэшткі муру і звыш 200 надмагільных помнікаў. Побач могілак знаходзіцца сметнік, многія надгробныя пліты ляжаць разбітыя. Пасля ўпарадкавання могільнікам апекавацца будуць вучні Падставовай школы ў Нараўцы.

**У галерэі мастацтваў Вышэйшай паліцэйскай школы ў Шчытне** адкрылася выстава 107 ікон, 15 праваслаўных крыжоў, 16 ліхтароў, абразоў, келіхаў і іншага літургічнага начыння, якія былі ўкрадзены ў святынях, і знойдзены паліцыяй. Падчас адкрыцця выставы „Паліцыя ў ахове каштоўнасцей культуры" было заяўлена, што ў мінулым годзе ў Польшчы было ўчынена 1141 узлом у храмы і капліцы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ XII З'езд БГКТ — уражанні і рэфлексіі дэлегата.
- ✓ Як цар Мікалай II паляваў у Белавежы.
- ✓ Пагоршыўся стан нашых дарог.
- ✓ У Міхалоўскай гміне раздаюць грошы.

## ДЗЯЖУРСТВЫ

Даходзяць да нас інфармацыі, што чытачам „Нівы" вельмі цяжка дазваніцца ў рэдакцыю ў працоўны час. Асаблівыя цяжкасці маюць нашыя прыхільнікі з замежжа. Каб пабольшыць магчымасць кантактаў, мы прыхіляемся да прапановы беларускіх асяроддзяў на эміграцыі і ўводзім дзяжурствы журналістаў у кожную сераду ад гадзіны 17.00 да 20.15 (16.00-19.15 GMT).

Спадзяемся, што гэты дзень тыдня будзе адпавядаць усім. Калі будзе патрэба, час дзяжурстваў можам прадоўжыць. Чакаем прапаноў ад чытачоў.

**РЭДАКЦЫЯ**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЭНЕРГЕТЫЧНЫ ГОЛАД — НЕ ЧАРНОБЫЛЬ

Зусім верагодна, што ў хуткім часе на Беларусі пачнецца будаўніцтва новай атамнай электрастанцыі. Прынамсі, нядаўна стала вядома аб перамовах беларускага ўрада з кіраўніцтвам Расеі, падчас якіх будзе падпісана пагадненне аб удзеле расейскіх спецыялістаў у будаўніцтве новай атамнай станцыі на Беларусі. Безумоўна, энергетычны голад — не цётка. І ўсё ж сярод беларускіх людзей гэтая навіна выклікала вялікі перапалох: ці не збудуюць нам усходнія суседзі чарговы Чарнобыль?

### ПА ПРАЦЫ І ГОНАР

Днямі ў радах навукоўцаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта з'явілася папаўненне. Ганаровае званне прафесара гэтага універсітэта было прысвоена нашаму славутаму земляку з Англіі, доктару Анджэю Цеханавецкаму. Нагадаю, што продкі Цеханавецкага паходзяць з роду князёў Заслаўскіх і Мсціслаўскіх. Яны ды і сам пан Анджэй Цеханавецкі зрабілі важкі ўклад у беларускую культуру. У прыватнасці, менавіта дзякуючы намаганням Анджэя Цеханавецкага адбылася навуковая канферэнцыя ў Венецыі па беларуска-італьянскіх культурных сувязях, адкрыта мемарыяльная дошка Ф. Скарыне ў Падуанскім універсітэце. А. Цеханавецкі вядомы таксама і сваёй мецэнацкай дзейнасцю.

### МЫ ВЫБІРАЕМ, А НАС НЕ ВЫБІРАЮЦЬ

Цікавае даследаванне правялі нядаўна беларускія сацыёлагі. Жыхарам рэспублікі было зададзена наступнае пытанне: „З якімі краінамі свету Беларусь павінна падтрымліваць найбольш цесныя адносіны?" Адказы нашых землякоў размеркаваліся наступным чынам:
з Японіяй — 4%
з ЗША — 20,3%
з Германіяй — 18,3%
з Канадай — 9,3%
з Польшчай — 6,8%
з Францыяй — 3,4%

Такім чынам, як бачна, большасць беларусаў хоча мець у бліжэйшых сябрах Злучаныя Штаты Амерыкі, Германію і Канаду. Але ці будзе гэтая сімпатыя ўзаемнай? Пажывем — пабачым.

### ШТО Ў ІМЕНІ ТАБЕ МАІМ?

Паводле аналізу, зробленага супрацоўнікамі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, з 14 тысяч бібліятэк рэспублікі 90 маюць уласныя імёны. Найбольш папулярнае імя сярод беларускіх бібліятэк — А. С. Пушкін, яго носяць дзевяць бібліятэк рэспублікі. Сем бібліятэк абралі сабе ў „заступнікі" дзіцячага пісьменніка А. П. Гайдара і жонку Леніна Н. К. Крупскую. Прозвішча самога камуністычнага правадыра носяць шэсць беларускіх бібліятэк. На жаль, славутым беларусам амаль не знайшлося месца ў родных бібліятэках. І яшчэ адзін факт з жыцця бібліятэк. На гэты раз прыемны. Урад Украіны прыняў рашэнне вярнуць Беларусі знакамітую бібліятэку графаў Храптовічаў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## УСТАНЬЦЕ, СПАДАР ГАЛЁНКА!

Фёдар Галёнка, дзеяч БГКТ з Варшавы, у радыёперадачы „Пад знакам Пагоні" ў размове з У. Праховічам 27 мая г.г. заявіў, што калі б ён і напісаў пра праблемы з памяшканнем у варшаўскіх беларусаў, то „Ніва" і так ніколі чагосьці такога не надрукавала б. Мы са свайго боку паясняем, што пан Галёнка апошнім часам нічога ў „Ніву" не пісаў і адмяўляць яму не было нагоды.

У справе клопатаў з памяшканнем БГКТ у Варшаве мы апублікавалі на пачатку гэтага года ажно пяць розных матэрыялаў, у тым ліку нашых журналістаў і самога тадышняга старшыні Таварыства А. Баршчэўскага.

Спадару Ф. Галёнку прапануем аднак прачытаць кніжку знакамітага польскага публіцыста Зыгмунта Калужынскага „Widok z pozycji leżącego". Аўтар паказвае ў ёй чалавека, які ляжыць і крычыць, што хтосьці прывёў яго да ўпадку. Лежачаму ўсе спачуваюць, літуюцца над ім, імкнуцца дапамагчы, страшэнна абураюцца і стараюцца знайсці віноўніка ўпадку нябогі. Але калі толькі хто-небудзь падасць руку „пакрыўджанаму" і хоча яму дапамагчы падняцца, той з абурэннем адпіхае прапанаваную помач.

Ляжаць і крычаць пра сваю крыўду і наракаць на нейкіх „злачынцаў" — гэта таксама метад, толькі ці найлепшы?

Спадар Галёнка вельмі добра зразумеў тактыку свайго кіраўніцтва. Ён — проста ўзорны вучань. Мы аднак заахвочваем Вас, спадар Галёнка — устаньце! Гэтак, як вы робіце — не вельмі прыстойна.

**Рэд.**

# ГМІННЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Гмінная рада нарадовая ў Мілейчыцах налівае 15 радных. Адзінаццаць з іх было выбраных з ліку кандыдатаў, прапанаваных Кааліцыйным выбарчым камітэтам, створаным Гмінным саюзам сельскагаспадарчых гурткоў, сялянскай партыяй ПСЛ і Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Чатырох радных, якія знаходзяцца ў апазіцыі да большасці, прадстаўляе Грамадзянскі камітэт. У радзе старшынюе **Мікалай Баенскі** з Мілейчыц.

Галоўная праблема, на думку старшыні Рады, - гэта нястача грошай у гмінным бюджэце, што не дазваляе вырашаць набалелыя грамадска-сацыяльныя пытанні і тым самым задаволіць спадзяванні выбаршчыкаў. Гмінны бюджэт невялікі - звыш трох мільярдаў злотых і ў большасці складаецца з дзяржаўнай субвенцыі. Адносна невялікія ўласныя даходы гміны з кожным годам памяншаюцца. У гміне землі благія, а ад грунтаў V і VI класаў сяляне не плацяць падаткаў. Нельга таксама зрабіць дадатковую карэктуру ўласнікам лясоў, бо не зроблены г. зв. "лясныя аператы". На тэрыторыі гміны няма буйных прадпрыемстваў, якія маглі б падмацаваць гмінную касу падаткамі. Да галоўных падаткаплацельшчыкаў можна залічыць, між іншым, СКР, ГС, прыватны тартак і рамонтны варштат. Перастала плаціць падаткі гарэльня ў Паканеве, якая мае цяжкасці з продажам свайго спірту. Спыніла прадукцыю кафлярня, а рабочыя папоўнілі рады беспрацоўных.

Абмяжоўваецца сама дзейнасць СКРа (кааператыва сельскагаспадарчых гурткоў). Няйлепшую зямлю прадалі яны сялянам, найгоршую пакінулі ляжаць аблогам, а апрацоўваюць толькі частку лепшых грунтаў. Апрача сельскагаспадарчых паслуг для насельніцва кааператыў займаецца пабудовай гравейных дарог у гміне і... гандлем. У іх можна купіць дызельнае паліва, камбікормы, мінеральныя ўгнаенні.

Гмінная спулдзельня (ГС), якая нядаўна была гандлёвым манапалістам, таксама апынулася ў складанай сітуацыі. У апошніх гадах прыйшлося закрыць з-за нерэнтабельнасці завод газіраванай вады і разліву піва, абмежаваць колькасць крамаў у цэнтры гміны і ў тэрыторыі. Рыначная эканоміка прычыніла ёй канкурэнтаў - з'явіліся новыя прыватныя крамы. Некаторыя з іх прыжыліся і паспяхова гандлююць, іншыя - абанкруціліся.

Дабрадзействаў свабоднага рынку не адчулі сяляне, а дакладней кажучы, адчулі яго адмоўныя бакі. Цяпер ніхто не забяспечвае збыт сельскагаспадарчай прадукцыі, ніхто не гарантуе мінімальных цэнаў. Яшчэ толькі малако дае пастаянны штомесячны грош у сялянскую кішэню.

З гміннага бюджэту фінансуюцца асвета, культура, сацыяльная ахова. За намовай Куратары асветы і выхавання, мы падумалі перанясць, раней чым патрабуюць гэтага міністэрскія распараджэнні, школу на сваё ўтрыманне. Рада прыняла нават адпаведную пастанову, але калі высветлілася, што Куратары дае меншую субвенцыю, чым абяцала, вырашылі адтэрмінаваць яе выкананне. Тое ж зрабілі і іншыя гмінныя рады ў ваяводстве. На ўтрыманні гміны знаходзіцца дзіцячы садок. У ім цяпер 7 чалавек персаналу і... 13 дзяцей. Калі б не нулявы клас, у якім займаецца 23 дзетак, само існаванне прадшколля апынулася б пад пагрозай.

Заканчэнння рамонту чакае будынак былой сінагогі, які пасля вайны стаў домам культуры. Дзеля гэтага патрэбны вялікія грошы, а ваяводскі кансерватар помнікаў адмовіўся ад датацыі.

Старшыня рады спыніў пералік гмінных патрэбаў. Яго можна было б працягваць яшчэ доўга, паказваць на склаўшуюся, бесперспектыўную ва ўяўленні многіх, сітуацыю гміны. Яна тыповая для ўсяго абшару г. зв. Усходняй сцяны, якую, дарэчы, ніхто толкам не ведае, як загаспадарыць.

**Запісаў В. ЛУБА**

# МНОГАЯ ЛЕТА... ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫЦЫ

Веліч артыстычных і рэлігійных усхваляванняў, размах мерапрыемства, вельмі добрая арганізацыя, цёплы прыём — гэта ацэнкі слухачоў і ўдзельнікаў васьмідзённага XII Міжнароднага Фестывалю царкоўнай музыкі Гайнаўка'93, які закончыўся ў апошнюю нядзелю мая. Міжнароднае сяміасабовае журы, якому старшынстваваў праф. Ромуальд Твардоўскі, аб'явіла вынікі конкурсу, прызнала ўзнагароды ды адбыліся канцэрты лаўрэатаў.

Фестываль у Гайнаўцы адбыўся ўсяго трэці раз. Раней, каля дзесяці гадоў таму, дырэктар Гайнаскага дома культуры Мікалай Бушко, айцец Міхал Негярэвіч і айцец Юры Шурбак пачалі арганізаваць Дні царкоўнай музыкі з удзелам адно прыхадскіх хораў, а затым Агульнапольскія Дні царкоўнай музыкі. З цягам часу мерапрыемства набывала штораз большы размах і маем... фестываль. Такім чынам здзейсніліся мае мары і планы, адзначыў дырэктар ГДК М. Бушко. Зараз фестываль — гэта адзіная такога тыпу імпрэза, як у Польшчы, так і ў свеце. Трэба толькі цешыцца, што ідэя гэтага фестывалю ўзнікла і ажыццявілася ў такім малавядомым невялікім горадзе, як Гайнаўка.

Падчас урачыстага адкрыцця сёлетняга Фестывалю мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій сказаў: „Царкоўная музыка з'яўляецца дыханнем Царквы. Гэта вялікае мастацтва. Прыгажосць царкоўнага спеву — у яго прастаце, у выказванні слоў у лагічным і навучальным у веры акцэнце, асабліва ўмольна-ўпрашальным і падзячным, а таксама ў захапляючым слаўленні даючага жыццё Хрыста, Які за нас прыняў Цела, быў раскрыжаваны і ўваскрос.

Малітва бывае асабістая, зборная (калектыўная), у думках і ў сэрцы, але асаблівае значэнне мае малітва спяваная харыстамі, вялікай колькасцю людзей.

Царкоўная музыка не ведае межаў. Яна дасягае Неба. Альбо гэтае Неба прыходзіць на Зямлю. Слухаючы малітвуспеў мы пападаем у рэлігійны экстаз, у парыве-хваляванні ды ў вялікай задуме мы забываем, дзе знаходзімся (...)"

Гістарычнай заслугай гайнаўскага Фестывалю ёсць тое, што царкоўная музыка, створаная ж для патрэб Літургіі, выйшла з храма і ўвайшла на сцэну, паказваючы сваю даўгавечную прыгажосць людзям, якія пра яе дагэтуль вельмі мала або нават зусім не ведалі. З 1981 года, спачатку ў невялічкай царкве а пасля ў Святатроіцкім саборы ў Гайнаўцы гучаць канцэрты Бартнянскага, Вэдэля ды славутыя творы Архангельскага, Часнакова, Чайкоўскага, Львова, Рахманінава, Даргамыжскага, Глінкі і шматлікіх іншых кампазітараў.

У апошнія гады колькасць парафіяльных хораў значна павялічылася, а ўжо перш-наперш маладзёжных. Арганізаваліся таксама жаночыя і дзіцячыя хоры. Гэты факт цешыць і заслугоўвае ўвагі. Гэта між іншым найбольшая заслуга гайнаўскіх сустрэч. Сёлета кожны хор-удзельнік выступаў у сваёй катэгорыі. „Свой" дзень мелі парафіяльныя вясковыя і гарадскія хоры, манастырскія, свецкія прафесіянальныя, свецкія аматарскія, хоры тэалагічных школ.

На сёлетнім гайнаўскім Фестывалі ўсе выканаўцы спявалі з сэрцам. Царкоўная музыка рабіла вялікае ўражанне на слухачах. Было іх многа. Не ўсіх магла памясціць новапабудаваная царква. Песні ў выкананні прыхадскіх хораў з Беласточчыны былі, як сказаў канферанс'е, найбліжэй Бога, плылі з сэрца і набожнасці. Найбольш уздзейнічалі і траплялі да сэрца. Гэта нічога, што часам іх узровень выканання не быў высокі. Бо як жа ж ад іх патрабаваць майстэрства? Яны ж, харысты, — на штодзень працавітыя земляробы.

Найбольшае ўражанне зрабіў на слухачах Дзяржаўны хор імя Рыгора Шырмы з Менска (Беларусь). Тут і вялікае майстэрства, і прафесіяналізм. Вышыня экспрэсіі. Хор заспяваў на заканчэнне імпрэзы „Многая лета". Але як!

Усе былі ў вялікім захапленні ад выканання песень і іншымі хорамі: Дзяржаўным камерным хорам „Кіеў" з Кіева, Дома культуры чыгуначнікаў у Брэсце, беластоцкай Медыцынскай акадэміі ды камерным хорам „Срэдэтс" з Сафіі. Апошні з іх заставіў слухачоў прызадумацца глыбей і пасмакаваць прыгажосць традыцый балгарскай музыкі. Балгарскія спевакі найпрыгажэй заспявалі сваё „Усякае дыханне" з XV-XVI стагоддзя.

А зараз — вердыкт знакамітага журы.

☞ *Працяг на стар. 5*

# ЛЮБЛЮ ЗЯМЛЮ

*Люблю зямлю з пачатку мая,*
*Люблю і восенню, зімой*
*І каб зямля не існавала,*
*На што ж тады маё жыццё?*

Пра зямлю, дрэвы, птушкі можна заўсёды пісаць вельмі многа. Выйдзеш вясною ў лес — птушкі спяваюць, зязюля кукуе, чыстае паветра, аж не хочацца вяртацца дахаты.

Зямля корміць чалавека, і яе трэба берагчы, як зрэнку вока. Той, хто яе сапраўды любіць, той даглядае быццам маленькае дзіця, песціць, як найлепшую каханку.

Але ў нас, беларусаў, бывае па-рознаму. Давялося мне 21 мая паехаць у Міхалова. Каля ПГР Геранімова ўбачыў мяне аж вочы разбегліся. Дзесяткі гектараў зямлі ляжыць аблогам. Там, дзе калісь раслі жыта ды пшаніца, толькі трава і пустазелле. Дзе-нідзе можна пабачыць нейкую карову. Напэўна, не „пэгэераўскія" яны, а гаспадароў з навакольных вёсак.

Найгоршае аднак пабачыў я ў самым Геранімове. Паміж велізарным хлявом і стаянкай для верталёта, у рове каля дарогі, поўна было рассыпанага аўса! Ляжала там гэтага збожжа столькі, што і на адзін воз не змясцілася б. Абяцаў я сабе, што вяртаючыся, бліжэй прыгледжуся да гэтага скандала. Так і было. Падышоў да купы аўса, узяў жменю і аж душа забалела. З „пэгэераўскіх" будынкаў выйшаў нейкі мужчына, падышоў да мяне, пастаяў, але не адазваўся. Цікава, ці думаў так, як і я?

Улада наша гаворыць штосьці пра марш у Еўропу, але калі не цікавіцца сваёй зямлёй, тады можам апынуцца ў гэтай супольнасці хіба што ў ролі жабракоў. Кідаць будуць нам тыя немцы ці французы нейкія нікому там непатрэбныя рэшткі. І так яно будзе, калі нашыя ўлады не пачнуць шанаваць зямлю.

А тое збожжа, якое там ляжала ў рове, маглі б, прынамсі, адвезці недзе далей, каб людзі не бачылі. Можа нейкая лясная звярына наелася б, а ПГР Геранімова ўпісаў бы ў свае справаздачы новую форму гаспадарчай дзейнасці — падкорм дзікай жывёлы. Можа нават была б за гэта нейкая ўзнагарода?

**МІКАЛАЙ ЛУК'ЯНЮК**

# ЗЛАЧЫНСТВА Ў БЕЛЫ ДЗЕНЬ

Паехала неяк Геня да дачкі ў Варшаву. Узяла з сабою дзве вялікія торбы з гасцінцамі — рукзак за плечы павесіла, а другую торбу ў рукі ўзяла.

Да прыпынку трамвая, на якім трэба было ехаць да дачкі, вялі дзве сцежкі. Адна — карацейшая — праз парк, была цёмная, і людзей на ёй не было. Людзі хадзілі па другой сцежцы, што была ўздоўж парку — была яна даўжэйшая, але светлая.

Геня выбрала першую. Мінула яна амаль палову пуці, і раптам пачула за сабою хуткія крокі. Выдавала на тое, што нехта хацеў яе дагнаць. „Пэўна, гэта злодзей", — падумала жанчына і мацней прыціснула да сябе торбы.

Раптам хтосьць моцна ўхапіў яе клункі і пацягнуў да сябе. Геня азірнулася, убачыла нейкага мужчыну і закрычала: „Людзі, ратуйце!" Злодзей напалохаўся, кінуў сумкі і пабег па алейцы, а Геня — за ім. Але злодзей збочыў і знік з відавоку.

На Генін лямант прыбеглі паліцыянты. Жанчына хутка расказала, што з ёй надарылася. „Пэўна, ён яшчэ тут, у парку. Недзе хаваецца, — вырашылі паліцыянты. — Трэба ўсё добра абшукаць". Пайшлі яны па той цёмнай алейцы, і ўбачылі злодзея. Той — уцякаць. Але дагналі яго паліцыянты, спынілі і наклалі кайданы. Пасадзілі злодзея ў паліцэйскі самаход і павезлі ў пастарунак. А Геня паехала да дачкі.

**АЎРОРА**

<u>З народнай абраднасці</u>

# РУСАЛЬНЫ ТЫДЗЕНЬ

Тыдзень пасля Тройцы называецца русальным, граным, зялёным або клечальным. Узнікненне абраду звязана з міфалагічнымі павер'ямі пра русалак.

Лічылася, што русалкі - жаночападобныя істоты, якія паходзяць з памерлых немаўлят-дзяўчынак, а таксама з тапельніц. Русалкі жылі ў рэках, азёрах, па лясах і палях і рабілі розную шкоду - выварочвалі сеткі, вырывалі вёслы, тапілі людзей, але разам з тым аберагалі жыта, калі яно каласілася, сачылі, каб ніхто не ламаў каласоў, не атрасаў расу.

У час русальнага тыдня рабілі "русалку" з саломы, убраўшы яе як дзяўчыну, і з ёю ішлі карагодам у сяло, затым з песнямі адводзілі "русалку" ў бор ці ў жыта. Удзельніцы абраду распускалі косы, ускладалі на галовы вянкі з васількоў. Вянок для русалкі адрозніваўся ад іншых вянкоў падборам раслін і кветак, памерамі, спосабам яго пляцення. Часам для русалкі плялі некалькі вянкоў, якія надзявалі ёй на галаву, шыю, рукі. Вянкі адыгрывалі пладаносную магічную ролю, пра што сведчыць традыцыя разрываць іх або цэлымі закідваць на грады, "каб расла капуста".

Пры вывадзе русалкі ў жыта бубнілі ў дошкі, падкідалі русалку, а самі ўцякалі ад яе. Выводзілі русалку абавязкова з рытуальнымі песнямі. Песні мелі засцерагальную сілу. Дзяўчаты спявалі пра заламванне асінкі, якое абясшкодзіць русалку:

*Правяду русалку, правяду.*
*Да й асінку заламлю,*
*Каб тая русалка па жыце не хадзіла,*
*Майго жыта не ламіла.*

Аднак большасць песень гаворыць пра цяжкі лёс русалак. Русалкі просяць дзяўчат падаць ім вадзіцы з халоднай крыніцы, якая верне ім жыццё, верне ім людскія кшталты, занятак. Наогул русалкі прагнуць усяго людскога і ласкава просяць у дзяўчат іх адзенне:

*На Граной нядзелі*
*Русалкі сядзелі,*
*Рана-ранюсенька*
*Русалкі сядзелі.*
*Дзевачкі-сястрыцы,*
*Падайце вадзіцы,*
*Ой, рана-рана,*
*Падайце вадзіцы.*

Пры вывадзе русалкі з жыта адбывалася сустрэча з русалкай суседняй вёскі і абменны разбор русальчынай зеляніны.

У некаторых мясцовасцях звычай праводзіць русалку дайшоў да нашага часу.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

# "ЗАЛАТЫ ВЕК", або Нататкі савецкага чалавека

*эсэ*

ВА ЎСІХ дакладных навуках галоўнае - трапнае вызначэнне часу. Зрэшты, недакладных навук не бывае. Хіба што якія-небудзь геаметры з трыганаметрыямі - з'явы, якія яны даследуюць, існуюць неяк абстрактна, нібыта па-за часам, а таму вызначэнне перыядаў там, прынамсі, не самае істотнае. Іншая справа - гісторыя ды сацыялогія. Згадайма: шэсць грамадскіх фармацый, тры этапы (дэмакратычна-вызваленчага руху ў Расеі), тры састаўныя часткі (марксізму), пяць прыкметаў (імперыялізму)... Але сухая мова лічбаў заўжды навявае нуду. Мо таму навуковы камунізм, як дысцыпліна так моцна занядбала, што ніколі не выклікала мастацкіх асацыяцыяў?..

Авідзій Назон, які жыў за часам першых рымскіх цэзараў, не быў ані марксістам, ані імперыялістам. Ён быў проста добрым паэтам, за што, дарэчы, Актавіян Аўгуст і саслаў яго ў Прычарнамор'е, да дзікунскіх варварскіх плямёнаў. Але, як сапраўдны майстра прыгожага пісьменства, Авідзій вызначыў свой час па-мастацку - "залаты век", "срэбны век", "бронзавы век", "жалезны"... Не ведаю, як бы назваў аўтар "Метамарфоз" наш час, калі ён бы апынуўся, скажам, у Менску ўзора 1993 года, бо наўрад ці ў старажытным Рыме былі металы, таннейшыя за жалеза...

ТАК, НАШ ВЕК, прынамсі, не залаты. Але камізм (ці трагедыя) часу не ў гэтым, а ў тым, што ўсё папярэдняе жыццё нас пераконвалі ў адваротным. Нашая свядомасць падзелена агароджамі з калючага дроту, дэмаркацыйнымі межамі ды берлінскімі сценамі, прычым да нядаўняга часу па адзін бок былі "мы" (з трывалым разуменнем свайго месца: "чалавечая годнасць", "дэмакратычныя свабоды", "гарантавана прыстойны лад жыцця"), а па другі бок - "яны" (адпаведна: "знявага чалавечае годнасці", "парушэнне дэмакратычных свабод", "гарантаванае жабрацтва" ды і ўвогуле - "там неграў вешаюць!"). І вось - заўважце! - калі, нарэшце, зліквідавалі дэмаркацыйныя межы, ушчэнт зруйнавалі Берлінскую сцяну, а апошнія калючыя дроты з'ела іржа, нашая свядомасць так і засталася падзеленай на "нас" і на "іх". Адзіная метамарфоза, якая адбылася - змена знакаў (цяпер усё кепскае толькі ў "нас", у "іх" жа, адпаведна, "залаты век"). Змяніўся і прынцып падзялення ідэалагічнага на маёмасны, бо пры "залатым веку" ў крамах ніколі не бракуе каўбасы.

"ЯНЫ" МОГУЦЬ БЫЦЬ імперыялістамі, капіталістамі, фашыстамі, камерсантамі, бізнесменамі, банкірамі, уладальнікамі раскошных лімузінаў, багатымі дзядзькамі, сынамі заможных бацькоў.

Мы можам быць толькі самімі сабою. Мы - гэта мы. Бедныя, але праўдзівыя. Недасведчаныя, але сумленныя. І шчырыя. І добрыя. Карацей - не "яны". "Мы".

ГЭТКАЕ ПАДЗЯЛЕННЕ - не пацвярджэнне тэзісу расейскага пралетарскага паэта Ул. Маякоўскага "У советских собственная гордость", і не ілюстрацыя да папулярнай сярод жабракоў прымаўкі "добра там, дзе нас няма". Гэта - праява тыпова савецкага менталітэту.

ТЭРМІН "МЕНТАЛІТЭТ", які апошнім часам увайшоў у моду сярод шмат якіх менскіх літаратараў, тлумачальныя слоўнікі падаюць як "погляд на рэчы". Тэрмін досыць разумовы: паспрабуйце далучыць да яго нейкае канкрэтнае вызначэнне, скажам, "адмоўны", "станоўчы" ці "абсалютны" - адразу ж атрымаецца словазлучэнне, пазбаўленнае ўсялякага сэнсу...

Але - добра. "Погляд на рэчы". Вось ідзем мы па Менску і глядзім на рэчы, выстаўленыя ў камерцыйных ятках. Ну, згадзіцеся, што большасць з нас і ўспрымае гэты камісійны рай як "залаты век". Што амаль кожнаму з нас калі-небудзь ды прыходзілі думкі накшталт: "А што, калі... украсць (не ў "нас" жа - у "іх", заможных гаспадароў цяперашняга жыцця), ці каб добры дзядзька падараваў, ну хаця б даў хто пакарыстацца ўсім гэтым бясплатна нейкі час, ды так, каб ніхто не заўважыў, не выкрыў... каб іншыя не дазналіся..." Хаця б падсвядома... Было?

Я пішу так упэўнена не таму, што хачу вас абразіць, і не таму, што я, маўляў, такі разумны. Проста я вельмі доўга жыву ў гэтай дзяржаве.

Ад самога нараджэння.

ПРА МЕНТАЛІТЭТ савецкага чалавека напісана шмат. "Манкурты", "алавяныя салдацікі", "марыянеткі"... Паўтарацца не хочацца. Далей за ўсіх пайшлі эстонцы, якія вызначылі "с. ч." як асобны біялагічны падвід - "Homo sovieticus". Але, згадваючы класіка - "з каго смяецеся?" З сябе, натуральна...

А ВОСЬ яшчэ такая трагедыйна-смяшлівая сцэнка:

Нядаўна мой сябра-музыка ў складзе нейкага псеўдафальклорнага ансамбліка пабываў у краіне "залатога веку", - у Францыі. Па прыездзе ўзялі мы з ім па чарцы, і я спытаўся: "Ну што, Федзя, якія твае ўражанні?" На Захадзе далей Польшчы мне бываць неяк не выпадала, але з розных разумных кніжак, прачытаных у юнацтве, паўставалі асацыяцыі: Мулен Руж, Эйфелева вежа, Манпарнас, пляц Пігаль... "Ну, - думаю,- зараз распавядзе мне Фёдар пра Тулуз-Латрэка ды Ван Гога..." А Федзя кажа: "Наймацнейшае ўражанне? Ведаеш, калі прывезлі нас у адзін гатэль, перабудаваны са старажытнага замка, першае, што кінулася на вочы - жывы паўлін. Ходзіць сабе, гад такі, па акуратна падстрыжаных газонах, хвост рознакаляровы распусціў нахабна-нахабна, і нікога не баіцца - пэўна, яго яшчэ ніхто не біў. Я, натуральна, са здзіўлення аж знерухомеў. І раптам чую ззаду: "Во, бля! Паўлін!.." Гэтак адзін з нашых аркестрантаў скаментаваў тое, што ўбачыў. І тут жа пайшла пагалоска: на Камароўскім рынку, маўляў, адно пёрка можна прадаць за дзесяць тысяч рублёў, а пёркаў у той птушкі шмат, так што калі іх абадраць і прадаць, а на тыя грошы накупіць гарэлкі... Адразу ж з'явіліся добраахвотнікі: "Я за ногі буду трымаць!", "А я за крылы!", "А я - дзёргаць буду!.." Але неўзабаве прыйшоў гаспадар гатэлю, прэзентаваў усім па нейкае драбязе, і народ супакоіўся. "Ну, і як ты да ўсяго гэтага ставішся?" - запытаўся я. "Ну што тут зробіш, - меланхалічна заўважыў сябра, - яны ж савецкія. Зрэшты, як і ўсе мы..."

А САПРАЎДЫ, што тут зробіш? Да кожнага аматара паабдзіраць паўлінам пёркі перавыхаваццеля не прыставіш - ды і дзе іх столькі ўзяць, настаўнікаў добрых манераў? А потым - невядома яшчэ, хто каго перавыхвае, і ці не стане той настаўнік праз нейкі час зацягвацца таннымі цыгарэтамі пасля першай шклянкі "Сталічнай" і гасіць недапалкі аб сцяну?.. Змяніць эстэтычны модул, ці "менталітэт" "с. ч." "шляхам уплыву" добрай літаратуры, добрай музыкі і добрых фільмаў? Толькі безадказныя ідыёты могуць свядома сцвярджаць, што прыгажосць, маўляў, уратуе сусвет. Інфармацыя, калі і знітоўваецца са свядомасцю ды пачуццямі, то вельмі ўскосна: ведаў я аднаго маскоўскага філолага, кандыдата навук, знаўцу Апалінэра і Рэмбо, які нападпітку вельмі любіў выходзіць на гаўбец сваёй кватэры і паліваць прахожых з вогнетушыцеля... Адпраўляць дзяржаўным коштам за мяжу на перавыхаванне, каб бачылі, як мае жыць? Ну, так жа ж, там - "залаты век", не тое, што ў нас... Але адно баюся - пёркі паабдзіраюць. І не толькі паўлінам.

КАЛІ ГАВАРЫЦЬ пра выйсце ўсур'ёз... Што рабіць? Натуральна, нічога. На маю думку, да праяваў нашага дзікунства пакуль што трэба ставіцца хіба што як да стыхійнага бедства. Смерч ёсць смерч, землятрус ёсць землятрус, і ніякім штучным метамарфозам яны не падлягаюць...

БЕЗУМОЎНА, падзяленне часу на перыяды, хаця і спрошчвае жыццё даследчыкам дакладных навук, на самой справе - вельмі ўмоўнае. І эпітэт, якім мы імкнемся ахарактарызаваць наш век, прынамсі, не самае істотнае ў цяперашнім жыцці - сёння мала хто з варвараў-дзікуноў хоча выдаваць на Авідзія, усе прагнуць стаць Актавіянамі Аўгустамі. (Толькі Авідзіяў сёння не высылаюць, а - пасылаюць). Але вызначэнне - хоць справа гэтая малаўдзячная, цяжкая і рызыкоўная - паспрабую даць. "Менталітэт" для мяне - не проста погляд на рэчы. Гэта, хутчэй, погляд на час. А збольшага беспамылковае арыентаванне ў часе магчымае адно пры ўмове, калі чалавек перастае ў сваёй свядомасці падзяляць свет на "нас" і на "іх".

Мо, толькі тады і настане той уяўны "залаты век"?..

*11.05.1993 г.*

# НЕПАСЛУХМЯНЫ ОРГАН

*Працяг са стар. 1*

БГКТ у той час стала заўзята абараняць сваю манаполію і абвінавачваць новыя арганізацыі ў тым, што яны, маўляў, імкнуцца ліквідаваць Таварыства. Спадзяванні на рэфармаванне гэтай арганізацыі аказаліся безвыніковымі. Калі пасля сакавіцкага племума ГП БГКТ у 1991 г. з'явіліся ў „Ніве" крытычныя матэрыялы, гэта выклікала абурэнне часткі дзеячоў Таварыства. Палеміку на старонках „Нівы" вёў толькі старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ Уладзімір Юзвюк. Рэшта кіраўніцтва маўчала, дамагаючыся спыніць крытыку, якая ў іх ўяўленні была толькі „аплёўваннем". Хвалявала членаў Прэзідыума ГП БГКТ не толькі крытыка Таварыства, але і матэрыялы аб дзейнасці іншых арганізацыяў, асабліва аб Беларускім дэмакратычным аб'яднанні. Атрымоўваў я папрокі за тое, што артыкулы аб БДА, на дадатак з „партрэтамі" яго лідэраў, пачынаюцца з першай старонкі. Некаторым дзеячам не падабаліся палітычныя выказванні, якія траплялі на палосы тыднёвіка. Напрыклад, абурэнне выклікала інтэрв'ю з Зянонам Пазьняком, у якім ён назваў камуністаў злачынцамі. Мае прапановы палемізаваць з публікаванымі артукуламі не знаходзілі ў членаў Прэзідыума зразумення.

Прызнаюся, што не апублікаваў я восенню 1991 года заяву Выбарчага камітэта Беларускага таварыства, азагалоўленую „Хто падзяліў беларусаў?" Прыпомню толькі, што БГКТ, не знайшоўшы агульнай мовы ні з Беларускім выбарчым камітэтам, ні з Выбарчым камітэтам праваслаўных, рашылася стварыць свой выбарчы камітэт, але... не паспела. У дасланай мне заяве, якую патрабавалася апублікаваць перад выбарамі, давалася адмоўная ацэнка абодвух выбарчых камітэтаў і прапанаваных імі кандыдатаў у паслы і сенатары. Калі я заявіў, што перад выбарамі гэтага не надрукую і прапанаваў апублікаваць заяву толькі пасля выбараў, сакратар ГП Валянціна Ласкевіч забрала матэрыял назад. Канфлікт наспяваў, і ў красавіку 1992 года закончыўся забраннем камп'ютэраў, маёй адстаўкай і выхадам „Нівы" з-пад крылаў БГКТ.

Несапраўднымі таксама лічу нараканні кіраўніцтва БГКТ, што Таварыства не мае магчымасці карыстацца старонкамі „Нівы". Чытачы, мабыць, заўважылі, што пастаянна публікуе свае фельетоны Алесь Барскі, што рэгулярна піша нам Янка Целушэцкі, якога нельга палічыць „ворагам" Таварыства. То кіраўніцтва БГКТ, па сваёй волі, вырашыла ізаляваццa ад „Нівы" і тую ізаляванасць працягвае. Відаць, вораг, хаця і выдуманы, Таварыству патрэбен.

**В. ЛУБА**




*Referat sprawozdawczy ZG odczytany na II Zjeździe ZPB przez prezesa Tadeusza Gawina (fragmenty).*

Główną ideą utworzenia ZPB była obrona praw Polaków mieszkających na Białorusi, a za cel strategiczny wybraliśmy odbudowę szkolnictwa polskiego i kultury narodowej. Dzięki staraniom działaczy Związku w roku 1990 wprowadzono nauczanie języka polskiego w 174 szkołach na terenie RB — z tym, ze tylko w 39 szkołach jako przedmiot obowiązkowy. Obecnie język polski jest wykładany w 300 szkołach, a jako przedmiot obowiązkowy — w 81 szkołach. W roku 1990 nauczaniem objęto 8252 uczniów, a w roku 1993 — 14252 uczniów.(...)

My Polacy — obywatele tego państwa przypominamy władzom Białorusi, że codziennie idziemy do pracy i swoją pracą wzbogacamy to państwo. Płacimy podatki i mamy takie same prawa, jak Białorusini.(...)

Naszą działalność kulturalną rozpoczynaliśmy od zorganizowania kilku chórów polskich. Obecnie mamy kilkadziesiąt zespołów Pieśni i Tańca oraz chórów. Nasz reprezentacyjny zespół Pieśni i Tańca „Lechici" kilka miesięcy temu obronił tytuł „Zespołu Ludowego". W ubiegłym roku po raz pierwszy w historii powojennej Grodna zorganizowaliśmy Festiwal Piosenki Polskiej na Białorusi, a za miesiąc odbędzie się drugi festiwal. W przyszłości chcielibyśmy utworzyć polskie zespoły teatralne. Powstałe Towarzystwo Polskich Plastyków na Białorusi stale uczestniczy w wystawach plastyków na Białorusi i w Polsce.(...)

Przy pomocy Podlaskiego Oddziału „Wspólnoty Polskiej" w 1991 roku zostało otwarte w Grodnie Studium Kultury Polskiej. Odrodzeniem naszej kultury narodowej zajmują się też Uniwersytety Ludowe powstałe w Brześciu i Mińsku.

Naszym marzeniem jest wybudowanie Centrum Kultury Polskiej w Grodnie. Bardzo cenimy sobie pomoc Stowarzyszenia „Wspólnota Polska" w odradzaniu naszej kultury. Dzięki „Wspólnocie" i jej prezesowi prof. A. Stelmachowskiemu mogliśmy wybudować Dom Polaka w Grodnie. We wrześniu zakończy się budowa Klubu Polskiego w Baranowiczach, a w planie jest budowa ośrodków kultury polskiej w Lidzie i Szczuczynie.

W tym okresie bardzo dobrze układały się stosunki z Ministerstwem Kultury i Sztuki RP i osobiście z wiceministrem p. Michałem Jagiełło. Życzylibyśmy sobie podobnej współpracy z Białoruskim Ministerstwem Kultury.

**PRASA, RADIO I TELEWIZJA**

Związek Polaków na Białorusi wydaje czsopismo „Głos znad Niemna". Od miesięcznika poprzez dwutygodnik doszliśmy w tym roku do tygodnika. Jest w tym zasługa pierwszego redaktora — Eugeniusza Skrobockiego i kolejnych redaktorów Włodzimierza Małaszkiewicza i Laury Michajlik.

Przez cztery lata nasze pismo mogło ukazywać się dzięki pomocy finansowej „Wspólnoty Polskiej" i polskiego biznesmena p. Aleksandra Gudzowatego. Rząd RB nie udziela wsparcia finansowego naszej gazecie, mimo że o taką pomoc ubiegamy się od roku 1990. Dzięki ofiarnej pracy: Laury Michajlik, Ireny Artisz, Honoraty Moroz, Marii Kuczyńskiej oraz Józefa Dziurbejko i Mariana Suchożebrskiego „Głos znad Niemna" trafia do naszych rąk. Czasami spotykamy się z krytyką artykułów zamieszczanych w „Głosie". Czytelnicy mogą dzielić się swoimi sprawami, problemami i wpływać na kształt pisma. Każdy otrzymany list będzie bardzo cennym darem dla nas wszystkich.

Obecnie wydajemy 12500 egzemplarzy, a chcielibyśmy aby nakład wyniósł 20000 egzemplarzy.

Uważam, że „Głos znad Niemna" stał się pismem lubianym i mile widzianym w tysiącach polskich rodzin.

Coraz większą popularnością cieszą się audycje radiowe i telewizyjne prowadzone w języku polskim przez red. Joannę Niemczynowską i Irenę Waluś, a także czasopismo „Magazyn Polski", którego redaktorem jest E. Skrobocki i nowy miesięcznik „Cudowna podróż" redagowany przez W. Małaszkiewicza.(...)

Między I a II Zjazdem powstały Towarzystwa Republikańskie działające przy ZPB i aktywnie pracujące na rzecz odrodzenia narodowego. Są to:

**Polskie Towarzystwo Naukowe**
**Polskie Towarzystwo Lekarzy**
**Towarzystwo Polskich Plastyków**
**Klub Młodzieży Katolickiej**
**Klub Sportowy „Batory"**
**Stowarzyszenie Kombatantów Polskich**
**Oddział Białoruski „Archiwum Wschodniego"**
**Klub Młodzieży i Studentów**
**Towarzystwo Przyjaciół Szkoły Polskiej**
**Komitet Pamięci Adama Mickiewicza**

(...) To, że mieliśmy pracowników ZG w działach oświaty, kultury i innych pozwoliło nam nieprzerwalnie prowadzić pertraktacje z rządem białoruskim i lokalnymi władzami o nasze prawa narodowe. Od czasu rozpadu imperium sowieckiego i powstania suwerennego państwa białoruskiego obserwujemy postęp w rozumieniu naszych problemów. Dlatego jesteśmy zadowoleni, że otrzymamy pomoc w odbudowie szkolnictwa polskiego.(...)

*„Głos znad Niemna" nr 20 z 17-23 maja 1993 r.*

# СВЯТЫЯ

Святое Пісанне гаворыць, што ў дзень Пяцідзесятніцы на сабраных у Іерусаліме апосталаў зышоў Святы Дух. У выніку гэтага яны атрымалі здольнасці і магчымасці, якіх дагэтуль не мелі. Невялікая група маладушных, баязлівых людзей цяпер мужна і ўпэўнена распачала місіянерскую працу. Адначасова пад уздзеяннем і кіраўніцтвам Духа ўзнікла Хрыстовая Царква, а ў ёй, нібыта ад дажджу, зазеляніўся цудоўны агарод выдатных людзей.

Сёння хачу затрымаць Вашу ўвагу на хрысціянскіх святых. Праваслаўная Царква ўшаноўвае іхную памяць у гэтую нядзелю, праз тыдзень пасля Пяцідзесятніцы. Каталіцкая Царква адзначае памяць усіх святых у апошні дзень кастрычніка, напярэдадні дня памерлых. Пратэстанцкія веравызнанні не прызнаюць культу святых. Тым не менш большасць з нас, ці ведаем пра гэта, ці не ведаем, атрымала імя нейкага святога. Царква склала спіс людзей, якімі ганарыцца, якія ўславіліся цнотамі і заслугамі, годнымі для ўзору. На працягу дзвюх тысяч гадоў выявіліся ўсе віды чалавечай дасканаласці. Гэта і быў той плён Святога Духа, які ажыўляе Царкву, як душа — цела.

Напоўнены Святым Духам, архідыякан Сцяпан, смела засведчыў пра сваю веру ў Хрыста, за што і быў забіты камянямі. Пасля яго з'явіліся іншыя мучанікі, якія пад пагрозай пакутаў і смерці не адмовіліся ад сваіх перакананняў. Пустэльнікі і манахі ў адзіноце, адмовіўшыся ад усіх прыемнасцяў жыцця і дрэннага ўплыву асяроддзя, працавалі над сваім унутраным удасканальваннем і служылі ўзорам для іншых. Выдатныя Свяціцелі-іерархі разумна і самаахвярна кіравалі Царквою. Некаторыя з іх паўплывалі на сфармуляванне догматаў веры і абаранялі ейную чысціню. Іншыя ўславіліся пашырэннем хрысціянства, або бескарыснай службай для дабра бліжніх. Вялікая армія людзей усіх расаў, нацыяў і моваў; людзі духоўныя і свецкія, князі і простыя людзі. Кожны з іх мае нейкую характэрную рысу, свае асаблівыя дасягненні, кожны з іх па-свойму ажыццявіў заклік: „Гэтак няхай свеціць вашае святло перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і ўславілі Айца вашага, Які ў небе".

Калі людзі з'яўляюцца вянцом тварэння, дык святыя — вянцом і гордасцю чалавецтва. Сам Хрыстос назваў іх „соллю зямлі" і „святлом свету". Гісторыя ведае шмат людзей, якіх пры жыцці абагаўлялі і ставілі ім помнікі, аднак цяпер іх успамінаюць з агідай. Пра некаторых, апрача гісторыкаў, цяпер нават мала хто і ведае. Імёны святых, наадварот — жывуць у свядомасці людзей стагоддзямі, іхнае жыццё і дзейнасць натхняюць і знаходзяць паслядоўнікаў у кожную эпоху.

Жыццеапісанні святых, званыя „агіяграфіямі", у мінулым вельмі часта аблягчалі сабе заданне, карыстаючыся гатовым шаблонам і манерай. Атрымоўваліся малапераканаўчыя панегірыкі, у якіх святыя ўжо з дзяцінства былі адораныя незвычайнымі прыкметамі. Калі траплял іся нейкія слабасці ці заганы, дык яны замоўчваліся і дбайна рэтушаваліся. Такім чынам заставалася толькі высакароднае і ўзнёслае, штучна ачышчанае з усяго, што псавала б ідэалізаваны вобраз святога.

Нічога дзіўнага, што сучаснага чытача знеахвочвае чытанне такіх жыццеапісанняў святых. „Гэта не для мяне, — кажа ён, — я ж не святы. Я звычайны, „нармальны" чалавек, як і ўсе". Папярочка цяжкасці выглядае яму ўзнятай настолькі высока, што дарэмна нават і прабаваць скакаць...

На шчасце, сучасныя апісанні больш рэалістычныя: у іх меней пафасу, а больш праўды. Кананізаваныя Царквою людзі паказаны на фоне сваёй эпохі і асяроддзя. Яны жылі ў канкрэтных абставінах, як і ўсе, змагаліся са слабасцямі і схільнасцямі. Дасканаласць не была ім дадзеная дарма, не прыйшлася лёгка. Яна, хутчэй за ўсё, была вынікам вялікіх намаганняў і працы сярод унутраных і вонкавых перашкодаў.

Пра святасць наогул, асабліва ў наш секулярызаваны час, гаварыць нялёгка якраз таму, што яна асацыюецца з нечым далёкім і нерэальным; што дасягненне яе мяжуе з немагчымасцю і цудам. Тым часам святасць трэба ўспрымаць як ідэал, як заданне, якое можна і трэба дасягнуць калі не поўнасцю, дык прынамсі, часткова. Сярод нас ёсць людзі, якія без вялікіх слоў, не кідаючыся ў вочы, шмат у чым паводзяць сябе як святыя. Сумленнасцю ў працы, згодным сямейным жыццём, добрым выхоўваннем яны ўжо ажыццяўляюць нейкую рысу хрысціянскай дасканаласці. Прыкладам можа быць жанчына, якую ведаю. Яе жыццё пачалося гаротным дзяцінствам у шматдзетнай, беднай сям'і. Потым дзяўчынка рана страціла бацькоў і паспытала незайздроснага жыцця служанкі ў такой жа шматдзетнай сям'і бацькавага брата. Затым прыйшла вайна, уцёкі ад бальшавікоў з прычыны патрыятычнай беларускай дзейнасці. Далей — лагер у Нямеччыне, пераезд у Амерыку, уладкоўванне ад нуля. Потым выйшла замуж, але не мела дзяцей. Пасля муж цяжка захварэў і жанчына, сама працуючы, дзесяць гадоў апекавалася спаралізаваным мужам, цярпліва і дбайна дахаваўшы яго да смерці. Нягледзячы на складанасці, яна знаходзіла час на спеў у царкоўным хоры, на грамадскую дзейнасць у беларускім асяроддзі, на арганізацыю выставак, вечарынаў, парафіяльных святаў. Бязмежна любіць Царкву і ўсё беларускае, заўсёды з усмешкай, заўсёды ўсім гатова памагчы... На маю думку — гэта сучасная святая, якую ўспамінаю не інакш, як з павагай і ўзрушэннем.

Безумоўна, свет становіцца лепшым, дзякуючы такім людзям. Іх няшмат, але яны адабратвараюць разбэшчаны свет і дазваляюць верыць у канчатковую перамогу дабра. Можа і мы становімся крыху лепшымі, дзякуючы ажыўляючаму струменню, які плыве ад даўніх і ад сучасных святых. Можа дзякуючы ім, свет наогул яшчэ існуе, а громаадвод іх заступніцтва прадухіляе Божы гнеў...

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**



# ПАЧЫНАЕЦЦА ПЯТРОЎКА

14 чэрвеня (1.06. па старому стылю) пачынаецца адзін з чатырох шматдзённых постаў - пост Святых Апосталаў Пятра і Паўла, які называецца таксама апостальскім постам. Гэта перасоўчаны пост і пачынаецца ён з панядзелка пасля Нядзелі Усіх Святых (першая нядзеля пасля Пяцідзесятніцы). Яго даўжыня залежыць ад даты свята Пасхі і вагаецца ад 8 дзён да 6 тыдняў. Устананаўленне посту пасля Свята Сашэсця Святога Духа на Апосталаў вяжацца з фактам хуткага распаўсюджвання хрысціянства пасля гэтага здарэння. Вяжацца яно таксама са значэннем дзейнасці Апосталаў, сярод якіх св. св. Пётр і Павел займаюць асаблівае месца з увагі на сваю місійную працу. Іх памяць ушаноўвалі ўжо ў IV стагоддзі, рыхтуючыся да гэтага малітвамі і постам.

Варта ўспомніць, што згодна царкоўным прынцыпам у час гэтага посту абавязваюць такія правілы, як і ў час посту перад Раджджаством, г. зн. у панядзелкі, серады і пятніцы - строгі пост, у аўторкі і чацвяргі дазваляецца спажываць алей, а ў суботы і нядзелі - алей, рыбу і невялікую колькасць віна дзеля падтрымкі. Таксама ў святы, напрыклад на нараджэнне св. Яна, дазваляецца есці і алей, і рыбу.

**С.Н.**




## АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

**19 чэрвеня г.г., у падзямеллі гасцініцы „Пад Ружай", што на вул. Фларыянскай 14 у Кракаве, адбудзецца трэці кніжны аўкцыён, на якім будуць таргавацца між іншым такія выданні:**

Poz. 5 — Adamus J., Z zagadnien prawa litewskiego, Lwów 1926. Cena wywoławcza 40 tys. zł.

Poz. 61 — Chotkowski W., Dzieje zniweczenia św. Unii na Białorusi i Litwie w świetle pamiętników Siemaszki, Kraków 1898. C. w. 240 tys. zł.

Poz. 69 — Czaplicki W., Moskiewskie na Litwie rządy 1863-1869, Kraków 1869. C. w. 180 tys. zł.

Poz. 110 — Finkel L., Elekcya Zygmunta I, Sprawy dynastyi jagiellońskiej i unii polsko-litewskiej, Kraków 1910. C. w. 100 tys. zł.

Poz. 118 — Gloger Z., Geografia historyczna ziem dawnej Polski, Kraków 1900. C. w. 220 tys. zł.

Poz. 123 — Goyski M., Wzajemne stosunki Polski, Litwy i Zakonu w latach 1399-1404, Studyum historyczne, Kraków 1906. C. w. 60 tys zł.

Poz. 181 — Vetulani T., O regeneracji tarpana leśnego w Puszczy Białowieskiej, Poznań 1948. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 243 — Likowski E., Dzieje Kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX w., Cz. 1 - 2, W-wa 1906. C. w. 420 tys. zł.

Poz. 245 — Loho-Sobolewski J., Prawo opiekuńcze w dawnej Litwie, Lwów 1937. C. w. 60 tys. zł.

Poz. 253 — Łotocki A., Autokefalia, Zasady autokefalji, W-wa 1932. C. w. 100 tys. zł.

Poz. 254 — Łowmiański H., Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego, Tom 2, Wilno 1932. C. w. 140 tys. zł.

Poz. 255 — Wcielenie Litwy do Polski w 1386 r., Wilno 1937. C. w. 60 tys. zł.

Poz. 446 — Vremennyja pravila vjazki i splava lesa v plotach po rekam: Visle, Pilice,Vep žu,Zap.Bugu,Narevu,Bobru, Muchavcu i Pine, kanalam: Augustovskomu i Dneprovsko-Bugskomu i vodoprovodu Belozerskomu, W-wa 1895. C. w. 80 tys. zł.

Poz. 453 — Wiadomości. Studium historii prawa litewskiego, T. 1, Wilno 1938 (zawiera m.in.: A. Wilkiewicz, Spory graniczne pol.-lit. w XV-XVII w.; S. Wysłouch, Uwagi o przyczynach rozwoju Mohylewa). C. w. 140 tys. zł.

Poz. 459 — Wilkiewicz-Wawrzyńczykowa A., Spory graniczne polsko-litewskie w XV-XVII w., Wilno 1938. C. w. 80 tys. zł.

Poz. 470 — Woliński J., Polska i Kościół prawosławny. Zarys historyczny, Lwów 1936. C. w. 100 tys. zł.

Poz. 478 — Wysłouch S., Rozwój granic i terytorjum powiatu Kobryńskiego do połowy XVI w., Wilno 1930. C. w. 80 tys. zł.

Poz. 492 — Zyzykin M., Autokefalja i zasady jej stosowania, W-wa 1931. C. w. 100 tys. zł.

Poz. 522 — Zbiór dawnych dyplomatów i aktów miast: Wilna, Kowna, Trok, prawosławnych monasterów, cerkwi i w różnych sprawach, Cz. 1 - 2, Wilno 1843. C. w. 2 mln. zł.

Poz. 619 — Gumowski M., Medale Radziwiłłowskie, Kraków 1950. C. w. 6 mln. zł.

**Заказы на аўкцыён можна накіроўваць на адрас:** Antykwariat „Rara Avis", ul. Szpitalna 7/4, I p., 31-024 Kraków, **з прыпіскай „Aukcja". Падаецца ў іх: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, першае слова загалоўка і найбольшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за кнігу.**

**ПЁТР БАЙКО**



# МНОГАЯ ЛЕТА...

*Працяг са стар. 3*

У катэгорыі вясковых прыхадскіх хораў першае месца заняў **маладзёжны хор праваслаўнай парафіі ў Заблудаве** (дырыжор Вераніка Бартунова), а ў катэгорыі гарадскіх — **маладзёжны хор парафіі св. Мікалая ў Беластоку** (дырыжор Аляксандр Лысынкевіч).

У катэгорыі парафіяльных хораў „іншых" журы прызнала два роўнапраўныя першыя месцы хорам: **Беластоцка-Гданьскай епархіі** (дырыжор а. Васілій Дубэц) і **Свята-Пакроўскага манастыра ў Харкаве** на Украіне (дырыжор В. Бойка).

Катэгорыя свецкіх аматарскіх хораў і зноў двух лаўрэатаў першых месц: **хор Медыцынскай акадэміі ў Беластоку** (дырыжор Бажэна Савіцкая) і **хор Дома культуры чыгуначнікаў у Брэсце** на Беларусі (дырыжор Мікалай Трафімюк).

Сярод свецкіх прафесіянальных хораў за найлепшыя журы прызнала: **Дзяржаўны хор імя Р. Шырмы з Менска**, сталіцы Беларусі (дырыжор Людміла Ефімава) і **Дзяржаўны камерны хор „Кіеў" з Кіева**, сталіцы Украіны (дырыжор Мікалай Гобдыч).

Узнагароды атрымалі таксама дырыжоры: Андрэй Боўблей, айцец Васілій Дубэц, а. Міхал Негярэвіч, Багдан Пура, Ян Палавянюк, а. Дзмітры Ціханюк, Ларыса Густавай, Анжэліна Акуленка, Орэст Ортыньскі.

З нагоды XII Міжнароднага Фестывалю царкоўнай музыкі яго гайнаўскія арганізатары выдалі два нумары „Фестывальнай газеты", падрыхтавалі спецыяльныя медальёны, буклет ды касеты з запісамі співаных падчас сёлетняга Фестывалю песень. Арганізатары з Гайнаўскага дома культуры разам са сваім дырэктарам **Мікалаем Бушко** і яго намеснікам **Галінай Вайсковіч** заслужылі на найпрыгажэйшую падзяку і самыя бурныя воплескі.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



*Сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы.* **Фота У. Завадскага**

# ЦІ БУДЗЕ БЕЛАРУСКАЯ МОВА ВЫВУЧАЦЦА Ў БЕЛАСТОКУ?

***Да гэтай пары нікому яшчэ не ўдалося сарганізаваць навучання беларускай мовы ў горадзе, у якім жыве амаль палова беларусаў з усёй Беласточчыны. Магчыма, сталася так таму, што займаліся гэтым „дзеячы" па загадзе сваіх арганізацый, якіх справа тая не вельмі цікавіла.***

***Ініцыятыва групы бацькоў з Падставовай школы н-р 9 у Беластоку з'яўляецца чымсьці зусім новым. Калі б ім удалося здзейсніць свае намеры, магчыма, быў бы гэта добры прыклад для іншых школаў. Ці ўдасца толькі пераламаць ірацыянальны страх беластоцкіх беларусаў перад выяўленнем сваёй нацыянальнай тоеснасці?! Ці трэсне той псіхалагічны бар'ер, які не дазваляе нам існаваць як народу, а толькі хіба што як фальклорнай групе? Адказам на гэтае пытанне будзе водгук на прапанову групы бацькоў з Падставовай школы н-р 9 у Беластоку.***

* * *

**Białystok, 4.V.1993 r.**

**SZANOWNI RODZICE!**

Zwracamy się do Was z zapytaniem, czy chcielibyście, aby Wasze dzieci, uczennice i uczniowie Szkoły Podstawowej nr 9 w Białymstoku, miały możliwość uczenia się Waszego ojczystego języka — języka białoruskiego?

Wszystkie mniejszości narodowościowe, a szczególnie Polacy mieszkający poza granicami Polski, nie zapominają o swej największej powinności wobec swoich rodziców i wszelkimi sposobami organizują swym dzieciom naukę języka ojczystego, to jest języka polskiego. Na Białorusi trudno spotkać dziecko w polskiej rodzinie, które nie umiałoby rozmawiać po polsku. Mało tego, na Białorusi i Litwie jak grzyby po deszczu powstają polskie szkoły, w których nie tylko nauczany jest język polski, ale wszystkie przedmioty naucza się w tym języku. Czynione są również próby organizowania uniwersytetów polskich. Nie jest w tym nic złego. Wprost przeciwnie, sprzyja to lepszemu zrozumieniu i współżyciu różnych narodów zamieszkujących dany kraj. Polacy na Białorusi, Litwie, Ukrainie i gdziekolwiek indziej nie obawiają się, że ich dzieci, wykształcone w polskich szkołach, będą miały problemy w znalezieniu pracy. Przeciwnie, możliwości pracy w takim wypadku zwiększają się.

A my, Białorusini mieszkający w Polsce, a szczególnie tu, na Białostocczyźnie, czy już ostatecznie utraciliśmy poczucie własnej białoruskiej tożsamości i godności narodowej? Pamiętajmy, że jeżeli nie uszanujemy samych siebie, to tym bardziej nie uszanują nas inni. Nie uszanują w przyszłości nas również własne dzieci. Jeżeli nie nauczymy ich naszego białoruskiego języka, jeżeli będziemy izolować ich od naszej białoruskiej kultury prawosławnej, to w przyszłości przyjdzie nam srogo za to zapłacić. A sędziami będą wtedy nasze własne dzieci. I naszej ojcowskiej i matczynej wierze prawosławnej będzie koniec.

Teraz, kiedy powstało niezależne, wolne i demokratyczne państwo białoruskie — Republika Białoruś, mająca dobre stosunki z Polską, możliwości rozwoju dla nas, Białorusinów, znacznie się zwiększyły. Władze oświatowe są zobowiązane stworzyć warunki i zabezpieczyć nauczyciela do nauki języka ojczystego, a w naszym wypadku białoruskiego, w każdej szkole, jeżeli zapragną tego rodzice choćby niewielkiej grupy dzieci. Jeżeli obawiacie się jakiejkolwiek dyskryminacji z tego powodu, to jesteście w błędzie. W szkołach podstawowych i średnich w Białymstoku wszędzie naucza się religii prawosławnej i nikt z tego powodu nie ucierpiał. Dopiero teraz my o tym wiemy. Wiedzcie również i o tym, że nikt nie ucierpi z powodu nauki języka ojczystego. Może w końcu nasze dzieci przestaną przeinaczać swoje imiona i przestaną wstydzić się naszych imion. A poza tym znajomość ojczystego języka białoruskiego pozwoli w przyszłości kontynuować im naukę na Białorusi.

Ponieważ wiemy, że znajomość naszego języka białoruskiego wśród rodziców jest nie najlepsza, dlatego dla lepszego zrozumienia problemu zwracamy się do Was po polsku. Wierzymy, że nasze dzieci w przyszłości bez problemów będą mogły pisać i mówić po białorusku, a naszą wiarę prawosławną zachowają i przekażą swoim dzieciom. Jeżeli rozumiecie wagę poruszanego problemu i wyrażacie chęć, aby Wasze dzieci uczyły się języka białoruskiego, zgłoście możliwie najszybciej o tym Pani Grażynie Bogacewicz, nauczającej religii prawosławnej w Szkole Podstawowej nr 9 w Białymstoku. Komitet Organizacyjny, który powstanie spośród Was, poprowadzi sprawę dalej.

**Grupa rodziców dzieci ze Szkoły Podstawowej nr 9 w Białymstoku.**

<u>**На спартыўнай ніве**</u>

### ЧЭМПІЯНАТ ШКОЛЬНІКАЎ ПА ЧАТЫРОХБОРСТВЕ

**У Беластоку адбыўся ваяводскі фінал па лёгкаатлетычным чатырохборстве моладзі з падставовых школ.**

**У катэгорыі дзяўчат першае месца заняла Падставовая школа ў Супраслі, другое — ПШ н-р 2 у Васількове і трэцяе — ПШ н-р 1 у Бельску-Падляшскім. Найлепшыя месцы занявалі Магда Зубрыцкая з Супрасля і Рэната Вашкевіч з ПШ н-р 2 у Васількове. Вучаніцы з Супрасля здабылі першынство ў чэмпіянаце другі раз. Дзяўчат рыхтавала настаўніца Францішка Война.**

**У катэгорыі юнакоў наступіла змена лідэра. Бесканкурэнтная ў папярэднія гады бельская „тройка" заняла трэцяе месца. Яе апярэдзілі школы:ПШ н-р 1 у Гайнаўцы (у ёй спартыўныя занятні вядзе Януш Людвічак) і ПШ н-р 1 у Бельску-Палдяшскім. Сярод юнакоў найлепш зарэкамендавалі сябе Адрыян Баравік з гайнаўскай „адзінкі", Кшыштаф Банькоўскі з бельскай „адзінкі" і Марцін Шарко з бельскай „тройкі".**

**Пераможцы сярод дзяўчат: у бегу на дыстанцыі 60 м — Барбара Гомляля (ПШ н-р 5 у Гайнаўцы), на 600 м — Бажэна Трахімчук (ПШ н-р 2 у Васількове), у скачках у даўжыню — Магда Зубрыцкая (ПШ у Супраслі), у скачках у вышыню — Рэната Вашкевіч (ПШ н-р 2 у Васількове).**

**Пераможцы сярод юнакоў: 60 м — Адрыян Баравік з гайнаўскай „адзінкі", 1000 м — Павел Орпік (ПШ у Дуброве), у скачках у даўжыню — Тамаш Лазук (ПШ у Дуброве), у скачках у вышыню — Багуслаў Казбярук з гайнаўскай „адзінкі".**

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

# KURS TAŃCA

Wojewódzki Ośrodek Animacji Kultury w Białymstoku, wychodząc naprzeciw dużemu zapotrzebowaniu na wysoko wykwalifikowaną kadrę instruktorską w dziedzinie tańca, organizuje odpłatny 2-letni Instruktorski Kurs Kwalifikacyjny w zakresie tańca w dwóch specjalizacjach:

— taniec towarzyski

— taniec współczesny.

Program Tanecznego Kursu Kwalifikacyjnego przewiduje 600 godz. dydaktycznych (4 semestry) i organizowany jest za zgodą Ministerstwa Kultury i Sztuki, które to wyda stosowne świadectwa stwierdzające kwalifikacje na poziomie średnim specjalistycznym w zakresie prowadzenia amatorskich zespołów tanecznych.

Warunkiem przyjęcia jest ukończenie szkoły średniej, wiek 18-40 lat, zaświadczenie o stanie zdrowia, a także stwierdzone egzaminem wstępnym predyspozycje muzyczno-ruchowe i ogólne wiadomości z zakresu kultury. Egzamin wstępny odbędzie się w siedzibie WOAK ul. Kilińskiego 8 w s. 111 w dniach:

— 16.06.93 r. godz. 10.00 z tańca współczesnego

— 17.06.93 r. godz. 10.00 z tańca towarzyskiego.

Bliższych informacji udziela Zespół Organizacyjno-Programowy i Doskonalenia Kadr WOAK tel. 321-636 lub 328-652 w. 15.

# КАЛЯНДАР КУЛЬТУРНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ

**Са спазненнем на некалькі месяцаў з'явіўся ў продажы „Каляндар культурных мерапрыемстваў", які інфармуе пра падзеі, што адбыліся або яшчэ адбудуцца ў Польшчы ў 1993 годзе. „Каляндар" падрыхтавала Міністэрства культуры і мастацтва, а выдаў яго Цэнтр анімацыі культуры ў Варшаве.**

**У „Календары" адзначаны гадавіны важнейшых падзеяў, якія ўшаноўваюцца дзяржаўнымі ўладамі, а затым пералічваюцца ўсе музейныя, тэатральныя, літаратурныя, фільмовыя, фатаграфічныя, мастацкія, фальклорныя і танцавальныя мерапрыемствы, а таксама падаецца інфармацыя, што, дзе, хто і калі тыя мерапрыемствы арганізуе. Адзначаны таксама фестывалі, арганізаваныя беларускім асяроддзем, між іншым, „Басовішча" і Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Змест „календара" ўзбагачаецца інфармацыяй пра нацыянальныя бібліятэкі, музеі і іх спецыялізацыю.**

**„Каляндар" можна купіць, паслаўшы заказ на адрас:**

Centrum Animacji Kultury
Dział Wydawnictw
00-075 Warszawa
ul. Senatorska 13/15

# ВЯРТАННЕ МАНАСТЫРА

**25 і 26 мая гэтага года адбылася ў Супраслі навуковая канферэнцыя „Супрасльскі манастыр у гісторыі Праваслаўнай царквы", арганізаваная Галоўнай управай Праваслаўнага брацтва імя св.св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. На канферэнцыю прыехала дзесяткі два навукоўцаў з розных мясцін Польшчы, а таксама з Менска, Пецярбурга і Масквы. Нарады праходзілі ў зале акругавага музея. Гасцямі канферэнцыі былі шматлікія духоўныя асобы ды прадстаўнікі свецкай улады, у ліку якіх канферэнцыю наведалі: прэзідэнт Беластока і беластоцкі ваявода, сакратар пасольства Рэспублікі Беларусь Уладзімір Каральчук і прадстаўнік Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы. Вітаючы ўдзельнікаў супрасльскай канферэнцыі, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава коратка прыгадаў гісторыю Супрасльскай лаўры ды выказаў надзею, што ў час нарад будзе прадстаўлены праваслаўны пункт гледжання адносна ролі Лаўры ў духоўным жыцці тутэйшага насельніцтва. Супрасльскі манастыр, падкрэсліў архіепіскап, заўсёды ў сваёй гісторыі быў цэнтрам рэлігійнага і духоўнага жыцця. Да ролі такой вяртаецца і сёння. (Адкрыццё канферэнцыі папярэдзіла літургія і высвячэнне манаскіх келляў — А.М.) Ва ўрачыстасці адкрыцця канферэнцыі слова ўзяў таксама мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій. Гаворачы пра гісторыю, мітрапаліт шмат увагі адводзіў еднасці Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Еднасць такая, заўважыў ён, не была, на жаль, ніколі дасягнута ў духоўным сэнсе. Праваслаўная царква атрымала частку будынкаў усяго супрасльскага комплексу і права на адбудову разбуранай у сорак чацвёртым годзе царквы. Але адзін той факт, што справа звароту ўсяго комплексу запынілася, распасціраe цень на роўнасць усіх веравызнанняў у Рэчыпаспалітай. Не хочам, сказаў мітрапаліт, уводзіць у грамадскую думку непакою, не хочам мы быць нічым іншым, чым былі ў мінулым нашы продкі — гэта значыць — народам. Першы дзень нарад меў больш уводны характар, хаця варта тут звярнуць увагу на даклад Марка Галушкі з Варшавы, які зрабіў агляд усіх праваых актаў, што мелі дачыненне да Супрасльскай лаўры. Сённяшняе юрыдычнае становішча, закончыў дакладчык, зусім не спрые стараням Праваслаўнай царквы вярнуць сабе супрасльскі комплекс — маёмасць гэтая разглядаецца як уніяцкая спадчына, у сувязі з чым, паводле законаў, першынство ў такіх стараннях мае Каталіцкі касцёл. Другі дзень канферэнцыі меў больш мерытарычна-навуковы характар. Доктар Генадзь Галінчанка з Менска (быў гэта, дарэчы, адзіны даклад на беларускай мове) правёў аналіз значэння тэрміна „рускі" ў XVI-XVII стагоддзях. Гаворачы пра навуковы тэзіс быццам Супрасльскую лаўру заснавалі кіеўскія манахі, спадар Галінчанка даказаў, што ў той час мясцовы інтэлектуальны патэнцыял быў настолькі моцным, што з яго менавіта і ствралася Лаўра. У час супрасльскай канферэнцыі рэдакцыя „Праваслаўнага агляду" ўручыла ўзнагароды імя князя Канстанціна Астрожскага за выключныя дасягненні ў галіне праваслаўнага пісьменства. У гэтым годзе атрымалі іх: Аляксандр Рогаў з Масквы, айцец Рыгор Сасна, Аляксандр Рыгаровіч з Познані і Антон Мірановіч. Антон Міранoвіч, прымаючы сваю ўзнагароду, перадаў супрасльскаму манастыру выданне з XVII стагоддзя, жадаючы, каб стала яно зачаткам адраджэння манастырскай бібліятэкі.**



**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**фота аўтара**

*На здымку: духоўныя і свецкія ўдзельнікі канферэнцыі.*

## ПАЭТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ ПРАВАСЛАЎЯ

У гісторыі беларускай літаратуры не так ужо і многа зборнікаў вершаў, аб'яднаных тэматычна. Паэтычных жа кніжак, злучаных ідэямі беларускага праваслаўя, нашая літаратура, пры ўсёй яе разнаіснасці і багацці, не ведала ўвогуле.

І тым больш прыемна, што падобны збор паэзіі нарэшце паявіўся і, як то ні дзіўна, не ў Рэспубліцы, а на Беласточчыне. Кніжка гэтая мае назоў „Храм і верш"*), выдадзена яна намаганнямі вядомага ў нашых краях пісьменніка, публіцыста, гісторыка і фальклярыста Міколы Гайдука. Паэтычная геаграфія беларускага праваслаўя прадстаўлена ў кніжцы досыць шырока. Тут — і славутыя гістарычныя дзеячы і асветнікі Беларусі (св. Кірыла Тураўскі, Георгі Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі), і хрэстаматыйныя класікі (Максім Багдановіч, Сяргей Палуян), і беластоцкія паэты (Міра Лукша, Юрка Баена, Сакрат Яновіч, Надзея Артымовіч, Віктар Швед, бацюшка Уладзімір Місяюк), і паэты беларускай эміграцыі (Наталля Арсеннева) і, нарэшце, аўтары з Рэспублікі (Хрысціна Лялько, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Уладзімір Сцяпан, Ала Канапелька, Алег Бембель).

Натуральна, тэматычны характар кніжкі паставіў яе рэдактара, паважанага сп. М. Гайдука ў даволі цяжкое становішча — складанне падобных збораў вымагае перш за ўсё добрага ведання літаратуры ва ўсёй яе разнастайнасці. Скажу адразу, што рэдактар „Храма і верша" сваю задачу выканаў бліскуча — кніжка гэтая мае каштоўнасць не толькі пазнавальную, не толькі духоўную, але і мастацкую. Да таго ж, зборнік аздоблены здымкамі праваслаўных святыняў Беласточчыны, так што нашым чытачам будзе, напэўна, карысным не толькі перачытаць вершы, але і згадаць мясціны, у якіх яны нарадзіліся і выраслі — асабліва, калі лёс закінуў іх па-за іх межы.

Пэўна, адзіная хіба кніжкі — параўнальна невялікі тыраж (1000 асобнікаў). Думаю, што і большы наклад знайшоў бы свайго чытача не толькі на Беласточчыне, але і па-за яе межамі.

*) *Храм і верш. Праваслаўныя святыні Усходняй Польшчы і беларуская духоўная паэзія. Укладанне і прадмова Міколы Гайдука. Беласток, Права-слаўнае брацтва Святых Роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія, 1993.*

(сл)




*МІРА ЛУКША*

### ДЗЯДЫ

Адыдзіце ад нас,
злосныя прывіды,
дзяды хворых бацькоў,
акалелых без часу.
Хто мячом ваяваў,
брата пікай прабіў,
ламаў дзверы суседа...
Піце кроў чорнай вады,
не закусіце хлебам!
Не падзелімся з вамі
ў час новай бяды -
белай смерці ад неба!
Спарахнелі ў курганах
ўжо вашыя мечы і стрэлы,
толькі хцівая кроў
забітых пад бельмам
ржавага месяца ў поўню
ў чорнай поўсці ваёў
б'ецца ў вашых
крывіцкіх сынах ачужэлых.

### ВОСЕНЬ

З хат пакінутых і спаленых сынамі
Ў вечны вырай адлятаюць нашы птахі.
Вецер гоніць павуціннe аблагамі.
Нясе вецер
чарнобыль і палын.

*ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ*

### ПРАЯВЫ

Калі заплюшчу вочы ў цішыні,
І, змучаны, хачу набраць зноў сілы,
Уюцца думкі, быццам карані,
Пра родны край мой і яго магілы.

О, Беларусь, няшчасная мая,
Пакрытая магільнікам, як лесам,
Пабітая снарадамі ў баях,
Засыпаная попелам з АЭСа.

Звініць ад болю бедная Хатынь
І выюць духі ветрам Курапатаў.
Яны такой жа ганьбай, як Катынь,
Абвінавачваюць вядомых супастатаў.

Напамінаюць іх паблізу нас
Па-варварску папаленыя вёскі -
Залешаны, Шпакі, Чыжы і Райск -
Ды і злачынствы ў Вульцы-Выганоўскай.

Я на хвіліну ўбачу, як у сне,
Кагорты войск з крыжамі і арламі,
Пажары, кроў і бітвы на вайне
Над нашымі лугамі і палямі.

Зямля стагнала ад чужых палкоў,
Яны нам забіралі душы, мову.
Няволю нам дарылі ад вякоў,
Надзею замянілі пустаслоўем.

І вось, калі заззяў свабоды бляск,
Калі знялі нам з плеч цяжар няволі,
Асталася надзеі мала ў нас
Да лепшай, шчаслівейшай долі.

Калі ж адкрыю вочы і зірну,
І ўбачу я свой край у бляску сонца,
Надзею я пачую, як вясну,
Якою буду цешыцца бясконца.

## ДВУХМОЎЕ — КАРЫСНАЯ З'ЯВА

У днях 21-22 мая ў Беластоку праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя „Дарога да ўзаемнасці", арганізаваная БГКТ і Польскім беларусазнаўчым таварыствам. У час канферэнцыі працавалі дзве секцыі: гістарычна-культурная і літаратурна-моўная. На гэтай апошняй, якой старшыняваў прафесар Альберт Барташэвіч, было прачытана 18 дакладаў з галіны літаратуразаўства, фальклярыстыкі і мовазнаўства. Моўным сувязям на пагранічччы былі прысвечаны чатыры даклады. Аб польска-беларуска-літоўскіх моўных і культурных сувязях у гаворках і анамастыцы Беласточчыны гаварыў праф. Міхал Кандрацюк з Варшавы, а праф. Павел Сцяцко з Гродна засяродзіўся на беларуска-польскіх кантактах у галіне матэрыяльнай культуры і іх адлюстраванню ў мове. Праф. Тадэуш Левашкевіч з Познані аналізаваў лексічныя і фразеалагічныя асаблівасці польскамоўных твораў Сакрата Яновіча, а праф. Ян Насовіч узняў тэму білінгвізму і прафесійнага двухмоўя. Да справы двухмоўя (білінгвізму) аднёсся ў дыскусіі праф. Павел Сцяцко, паколькі гэта з'ява датычыць амаль усіх беларусаў, як на Бацькаўшчыне, так і ў замежжы. Расказаў ён пра сутнасць савецкага білінгвізму і пра яго рэакцыйны характар. Білінгвізм — гэта наогул карысная справа, калі адкінуць ад яго палітыку.

Кожны білінгв мае адну родную мову, а не, як даказвалі бальшавікі, дзве родныя. Любы білінгв ці полілінгв на фоне сваёй роднай мовы будуе паверхі ўсіх іншых моваў. У савецкі час у Беларусі білінгвізм з лінгвістычнай з'явы ператварыўся ў палітычную, што выцясніла з паўсюднага ўжытку беларускую мову на карысць расейскай. Беларуская мова, працягваў П. Сцяцко, узнікла на скрыжаванні ўсходнеславянскіх і заходнеславянскіх элементаў і мае многа супольнай лексікі з польскай мовай. Бальшавікі баяліся гэтай цеснай сувязі і многія словы, якія былі агульныя з польскай, замянялі расейскімі тэрмінамі, выганялі іх са слоўнікаў і ўжытку. На складанасці з'явы білінгвізму і яго выкарыстоўванне ў розных мэтах (на прыкладзе распаўсюджвання англійскай мовы ў заходніх краінах) звярнуў увагу таксама праф. Фларыян Няўважны.

На канферэнцыі навукоўцы з Польшчы і Беларусі прачыталі яшчэ чатыры даклады з галіны фальклярыстыкі і дзевяць — літаратуразнаўчых.

(л)

## ЛІТАРАТУРА ФАКТА

Бывае часам - бярэш у рукі якую-небудзь вялікую, аб'ёмістую кнігу, прачытаеш колькі дзесяткаў старонак і адкладаеш яе, бо апроч голай апісальнасці не бачыш больш нічога - ані сюжэта, ані фабулы. Уявіце - пераліки ды апісанне розных прыгажосцяў на працягу некалькіх соцень старонак. І хіба адзінае, што застаецца пасля прачытання падобных кніжак - пачуццё змарнаванага часу. Гэтым самым хачу сказаць, што аб'ём кнігі і колькасць "упрыгожванняў" не заўсёды вызначаюць мастацкую каштоўнасць надрукаванага.

Зборнік прозы "Дзікі птах верабей", што належыць пяру вядомай і на Беласточчыне, і за яе межамі журналісткі, паэткі і празаіка Міры Лукшы, складаецца з дваццаці шасці невялічкіх навелак. Першае, што кідаецца на вочы - у навелках гэтых амаль няма ані падрабязна выпісаных партрэтаў, ані апісання прыроды, краявідаў ды іншых прыгажосцяў. Гэта, пэўна, вынікае з таго, што Міра Лукша вось ужо каторы год працуе журналістам "Нівы", і спецыфіка яе працы адбіваецца і на празаічнай творчасці маладой пісьменніцы. Але гэта, на маю прыватную думку, ані ў якім разе не адбіваецца на мастацкасці прозы а, хутчэй, надае ёй якасці, якіх часам бракуе ў творах аўтараў, не схільных да, гэтак мовіць, "публіцыстызацыі".

Вось навела "Гандзя". Маналог старэнькай бабулі з нейкага падбеластоцкага мястэчка. Чытаеш яе, і бачыш выразна і тую бабулю, і падзеі амаль пяцідзесяцігадовай даўніны, і герояў тых падзеяў. Але няма ў ёй ані партрэтных характарыстыкаў, ані звыклай апісальнасці характараў. Усё гэта - і партрэты, і характары - вынікаюць з моўных інтанацыяў, з самой сітуацыі (досыць тыпічнай для людзей таго пакалення). Тым не менш, мастацкае ўражанне стwараецца моцнае.

Ці навела "Душагрэйка", - пэўна, лепшая ва ўсім зборніку. Таксама маналог - старая вясковая кабета расказвае, як адводзіла яна свайго мужыка ад іншае жанчыны. Звычайная жыццёвая гісторыя - пэўна, падобных кожны з нас бачыў у сваім жыцці мо не адзін раз. Але ў інтэрпрэтацыі аўтаркі гісторыя гэтая набывае рысы сапраўднай эпічнасці. Ды і сама назва навелы - "Душагрэйка" - успрымаеца ў кантэксце аповяду досыць сімвалічна.

Калі я пішу пра "публіцыстычную" структуру апавяданняў, ані ў якім разе не хачу сказаць, што тэксты аўтаркі пазбаўлены лірызму, але ён вынікае, хутчэй не з наўмысных славесных "аздобаў", з "сітуацыйнасці", "сюжэтнасці", як у навелцы "Ёсць час ліпаў і слёз":

"Спі, бацік.

Голасна цікае гадзіннік. Столькі часу вісіць ён у цёмным кутку спальні - супакоены прысутнасцю дома тоўстага жоўтага павука і паху святаянніку. Акунуў свой шэпт у цішыню: Тык-тык-тык-тык-і-так-спакойна. Памаленьку ад-мер-ва-ю час сон-ны час воль-ны час ля-ціць му-ха ка-ля ву-ха тык-тык-тык спі бра-цік цік-так-так!"

Так, гэта і ёсць, пэўна, сапраўдны лірызм, пазбаўлены штучнасці і няшчырасці, што, часам, бываюць уласцівыя многім сучасным аўтарам.

Літаратуру кшталту падобнай крытыка часам называе "літаратурай факта". Вызначэнне, на маю асабістую думку, вельмі трапнае. Я, як мне падаецца, нябблага ведаю творчасць не толькі беластоцкіх літаратараў, але і прозу беларускіх (савецкіх) пісьменнікаў. Магу сказаць упэўнена - ані формы, ані структуры, падобнай да Лукшынай, мне бачыць не даводзілася. Так што беларускія чытачы атрымалі кнігу не толькі змястоўную і мастацкі вартую, але і цікавую з пункту гледжання формы. З чым іх і можна павіншаваць.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ШЛЯХ У СУПОЛЬНУЮ ЕЎРОПУ

У канцы мінулага года быў надрукаваны першы нумар "Дакументаў Інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы". Інстытут гэты знаходзіцца ў Любліне. Праблематыка інстытуцкіх даследаванняў, як і вынікае з самой назвы - гісторыя і сацыялогія рэгіёна. Узначальвае гэтую ўстанову выдатны польскі навуковец прафесар Юры Клачоўскі. Інстытут рэгулярна арганізуе канферэнцыі і семінары для даследчыкаў з усяго свету. Бяруць у іх удзел і беларускія навукоўцы.

Паводле рэдакцыйнай калегіі, мэта выдадзенага зборніка - дакументаваць навуковае жыццё, азнаёміць даследчыкаў з дасягненнямі Інстытута, а таксама з рэфератамі і выступленнямі, прадстаўленымі на навуковых сустрэчах.

Нумар знаёміць чытачоў са зборам матэрыялаў з навуковай канферэнцыі, праведзенай Інстытутам у чэрвені 1992 года. Канферэнцыя тая прысвячалася даследаванню праблем нацыянальнай тоеснасці ў Еўропе XVIII-XIX ст.ст. "Паміж універсалізмам і нацыяналізмам" - так можна вызначыць адзін з асноўных лейтматываў надрукаваных распрацовак. Безумоўна, гэтыя доследы з'яўляюцца паказчыкам узроўню гістарычных ведаў у той ці іншай краіне.

Вельмі прыемна, што шмат месца ў зборніку адведзена беларускай тэматыцы. Таму хацелася б звярнуць увагу чытачоў менавіта на гэты раздзел.

Пачынаецца ён з артыкула Уладзіміра Конана пра вытокі беларускай нацыянальнай ідэі. Аўтар зніто ўвае яе з дзейнасцю Францыска Скарыны і Льва Сапегі. Пра хрысціянскія вытокі ў стварэнні беларускай дзяржавы змястоўна піша Сяргей Тарасаў. Праўда, здзіўляе галоўны тэзіс аўтара, паводле якога нацыянальным веравызнаннем беларусаў у XVII-XVIII ст.ст. была унія. Крыху незразумелым падаецца і пытанне, пастаўленае напрыканцы: "што адчувае народ, які на працягу стагоддзяў шмат разоў змяняў сваю веру?" Мушу зрабіць невялічкі каментар да вышэйпрыведзеных цытатаў: беларусы - у пераважнай большасці - праваслаўныя, і нават у найцяжэйшыя часы сваёй гісторыі былі адданыя менавіта гэтаму веравызнанню. Мне падаецца, што нельга разглядаць унію як "нацыянальную беларускую рэлігію". Артыкул Язэпа Янушкевіча распавядае пра станаўленне нацыянальнай самасвядомасці беларускай інтэлігенцыі ў XIX-XX ст.ст. Алег Дзярновіч піша пра ацэнку гісторыкамі XIX-XX ст.ст. рэлігійна-этнічнай сітуацыі ў Вялікім княстве Літоўскім. Захар Шыбейка прадстаўляе вобраз Беларусі ў другой палове мінулага стагоддзя. Паводле яго, супраць маскоўскай каланізацыйнай палітыкі і русіфікатарства ў тыя часы выступала гаспадарчая і культурная апазіцыя. Менавіта яна адыграла важную ролю ў фармаванні нацыянальнай свядомасці нашага народа. Спецыфіку нацыянальнага руху ў тую ж эпоху аналізуе Генадзь Сагановіч. Два апошнія артыкулы менскіх навукоўцаў - пра лёс беларусаў у часы II сусветнай вайны: Аляксей Ліцьвін піша пра беларуска-літоўскія дачыненні таго часу, а Уладзімір Гуленка - пра дзейнасць на тэрыторыі Беларусі Арміі Краёвай і Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Да гэтых даследаванняў далучаны артыкул Рышарда Радзіка пра развіццё нацыянальнага жыцця беларусаў і палякаў у час падзелаў Рэчы Паспалітай.

Апроч беларускай тэматыкі, зборнік знаёміць з матэрыяламі аб фармаванні нацыянальнай тоеснасці ўкраінцаў, палякаў і французаў.

Падсумоўваюць гэтыя матэрыялы артыкул Юрыя Клачоўскага, аб праблемах нацыянальнага жыцця Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, і даследаванне Яна Паморскага, у якім ён абгрунтоўвае неабходнасць напісанння гістарычных распрацовак, прысвечаных гэтай частцы свету.

**АНТОН МІРАНОВІЧ**

# НОВАЕ МЕСЦА МОЦЫ Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

- Пакажы нам, Сяргей, нарэшце, тую магілу, якую ты знайшоў некалі ў пушчы. Ты ж нам столькі пра яе расказваў!

Мне і Барысу Руско доўга намаўляць нашага прыяцеля, доктара Сяргея Тарасевіча, не прыйшлося. Ён ахвотна запусціў матор свайго "фіяціка" і, вось, мы ўжо ў дарозе, а праз нейкае паўгадзіны - на месцы.

- Ведаеце, хлопцы, нам будзе неабходна пакруціцца крыху па наваколлі, бо магілка малая і слаба прыкметная, - заўважыў Сяргей.

Выстраіліся мы ў шарэнгу і пачалі "прачэсваць" закавулак Белавежскай пушчы, які знаходзіцца ў 495 квартале, ля чыгункі Гайнаўка - Белавежа. Сяргей дзесьці знік нам з вачэй. Мы з Барысам выйшлі на малую палянку, густа парослую, як не дзіўна, яблынямі і шыпшынай.

- Тут некалі мусіў стаяць нейкі будынак, з агародам навокал, бо звычайна яблыні і шыпшына не растуць у пушчы, - я задумаўся ўголас.

- Але паглядзі, Пятрусь, - азваўся Барыс, - колькі тут навокал развілістых дрэў, і то розных відаў. Разгаліноўваюцца дубы, сосны, елкі, нават бярозы. І то ў розным узросце!

Мы спыніліся, пачалі клікаць Сяргея. Ён выхіліўся з-за дрэў, усміхаючыся.

- Я знайшоў магілку, - узрадавана абвясціў наш прыяцель.

- Але мы, Сяргей, знайшлі тут штосьці іншае, - адказаў яму Барыс. - Таксама цікавае!

Пачалі мы разглядаць ды абмяркоўваць гэтае месца.

- Не ведаю, як вы, але я тут вельмі добра сябе адчуваю, - у нейкі момант сцвердзіў Барыс.

- А мне здаецца, што ў мяне выраслі крылы і магу ўзляцець! - прыўзнята сказаў Сяргей.

Штосьці падобнае адчуваў ад нейкага часу і я, толькі не гаварыў уголас пра гэта.

Падаліся мы, нарэшце, да магілкі. Калі разглядзелі яе дакладней, прыйшлі да вываду, што гэта мо і не магілка, а толькі ў такі спосаб нехта пазначыў якоесь месца або памяць аб нечым.

А, вось, выгляд самой "магілкі". Навокал пня ад ссечанай бярозы (прыблізна 50-гадовай) знаходзіцца цэментная абмуроўка. На ёй віднее дата: 20-X-1947 г. і літары: K W L M W B N J. Аб абмуроўку апертая цэментная пліта з праваслаўным крыжам, пашыраным унізе. Па абодвух баках таго ж крыжа знаходзяцца літары: "Y" і "T". А пад плітой бачны, выцісныты ў абмуроўцы, след чалавечай ступні, накіраваны проста на... палянку, быццам указальнік.

Вярнуліся мы дамоў, і кожны толькі і пытаўся ў сябе: якую таямніцу скрываюць палянка і "магілка"? Распыталі людзей. Разлічвалі на тое, што, можа, нехта ведае, што там здарылася. На жаль, ніхто не ведаў. Праўда, мы даведаліся, што зараз пасля вайны загінуў пры ўкладцы рэек чалавек з Белавежы. Але сталася гэта бліжэй Грудкоў, ды і пахаваны ён на белавежскім могільніку.

Цікавілі нас таксама загадкавыя літары. Распытваючы людзей на Падалянах, Б. Руско прыйшоў да вываду, што яны могуць быць ініцыяламі працаўнікоў, якія рамантавалі ў той час чыгуначнае палатно, разбуранае немцамі. Ён устанавіў, што на чыгунцы працавалі м. інш. Канэцкі Вацлаў (падыходзілі б ініцыялы KW) і Ліцкевіч Мікалай (LM). Апошнія чатыры літары, мабыць, ініцыялы двух іншых працаўнікоў. Мы дадаткова праверылі, ці цэмент з абмуроўкі і пліты той жа самы, з якога збудаваны мосцік на чыгунцы, што знаходзіцца побач. Аказалася, што так. Мы тады і перасталі займацца "магілкай", а звярнулі ўвагу на палянку і яе наваколле.

На самой палянцы мы знайшлі шмат вялікіх камянёў, размешчаных з прымяненнем нейкай сістэмы. У самым цэнтры палянкі адкрылі шмат меншых камянёў, укладзеных адзін пры другім на невялікай паверхні, прысыпаных 10-15-сантыметровым слоем зямлі. Нам падалося, што большыя камяні вызначаюць пяцікутную зорку, значыць - пентаграму. Не хапала нам толькі некалькіх камянёў, але калі сталі шукаць у месцы, дзе яны павінны былі знаходзіцца... знайшлі іх! Яны ўжо "ўраслі" ў зямлю.

Да нашай "даследчыцкай групы" далучыў з часам Георгій Валкавыцкі - так, так, былы галоўны рэдактар "Нівы". Ён адшукаў яшчэ іншыя камяні. Іх ужо стала так многа, што мы пачалі губляцца, што яны вызначаюць і ці наогул штосьці вызначаюць. Зараз хочам нанесці іх на план, можа тады штосьці ўдасца з іх "вычытаць"?

У размовах паміж сабою мы разглядалі розныя версіі, прабуючы растлумачыць загадкавасць гэтага месца. Магчыма, быў тут некалі "святы гай", у якім адбываліся паганскія абрады і месца гэтае прасякнута "моцай" паганскіх малітваў. А мо язычнікі выкарысталі толькі знойдзенае імі натуральнае месца моцы? Некаторыя кажуць, што тут нейкіх 200 гадоў назад людзі выпальвалі вугаль з драўніны і, магчыма, з таго перыяду сама паляна, а камяні таксама ўкладзены для нейкай будніцкай мэты. Сапраўды, непадалёку можна знайсці сляды нейкіх зямлянак, раскопаў, насыпаў, а таксама сажалачку, з якой, магчыма, бралі ваду для тушэння меляшоў. Хаця, калі мы першы раз убачылі гэтае "вадзяное вочка", Барысу Руско здалося, быццам яно паўстала ў выніку ўпадзення нейкай крышынкі нябеснага цела. Зрэшты, магло быць і так. Выпальваючыя вугаль, буднікі не мусілі самі капаць сажалкі, а толькі выкарыстоўвалі натуральныя вадаёмы.

Барыс Руско так тлумачыць пазітыўнае ўздзейванне таго месца: Падземельныя цёкі, якія там несумненна знаходзяцца, выпраменьваюць энергію ўверх. Камяні ў сваю чаргу затрымліваюць дрэнное праменяванне, а прапускаюць толькі добрае.

Святлана Багданьская, белавежская біяэнергатэрапеўтка, даследуючы тое ж месца, звярнула нам увагу, што не ўсюды адчуваецца пазітыўнае ўздзеянне энергіі. Ёсць месцы вельмі добрыя, ёсць і дрэнныя. Яна нам іх паказала. Пацвердзілі гэта радыестэзійныя даследаванні. І што цікава - стоячы пры некаторых камянях, з аднаго боку адчуваем сябе добра, а з другога - дрэнна, быццам у іх былі полюсы дабра і зла.

Хочаш не хочаш, але пусцілі мы чуткі пра гэтае месца моцы па мястэчку. Сюды ўжо прыязджала шмат людзей. Некаторыя з іх пацвярджаюць нашыя назіранні. Сам сп. Барыс прыязджае сюды тады, калі баліць яму галава. Кажа, што боль адыходзіць імгненна. Тое ж самае дасведчыў яго сын. На мяне месца ўздзейнічае дабратворна, "ачышчаючы" галаву ад усялякіх напружанняў. Там мне вельмі добра думаецца. Мой брат, пахадзіўшы па палянцы, сцвердзіў, што яму перастала балець нага, якую раней моцна настраміў.

Вось так, дзякуючы нашаму сябру Сяргею Тарасевічу, мы адкрылі ў пушчы новае месца моцы. Пішу "новае", бо адно мы ўжо раней устанавілі ў самой Белавежы, на палацовым узгорку ля музея, там, дзе на адным з дубоў паявіўся вобраз людской галавы. Я ўжо раней пісаў аб гэтым у "Ніве". Дадам толькі, што радыестэт з Грудак, Ян Лапінскі, вызначыў навесну г.г. у гэтым месцы цэнтр пазітыўнага ўздзеяння. Знаходзіцца ён побач ядлоўца; побач дуба "з галавой" выцякае негатыўная энергія! Радыестэзійная палачка ў цэнтры проста "вар'яцее"!

Калі хто хоча наведаць апісанае месца і сам яго праверыць, можа дабрацца туды, накіроўваючыся з шашы Гайнаўка - Белавежа на г. зв. Сініцкую дарогу. За чыгуначнай лініяй адыходзіць направа лясная дарога. З яе трэба павярнуць і ісці да месца, з якога па правы бок відаць чыгуначны мосцік. Налева ёсць "магілка", а далей палянка з камянямі. Лінію ад "магілкі" да паляны вызначаюць тры камяні. Хто іх гэтак паклаў, нам невядома. Мо ўсё ж такі "магілка" з'яўляецца нейкім паказальнікам?

**ПЁТР БАЙКО**

# СВЯТОЧНЫЯ ДНІ - З НАЦЫЯНАЛЬНЫМІ МЕНШАСЦЯМІ

З 20 да 27 чэрвеня ў нашым горадзе будуць праводзіцца "Дні Ольштына". Гэтае свята арганізуе старшыня суполкі "Сябры Ольштына" Анджэй Сасын. На ўрачыстасцях знойдзецца месца і для нацыянальных меншасцяў, што жывуць у нашым ваяводстве. Жыхары горада азнаёмяцца з мастацкай творчасцю немцаў, украінцаў, літоўцаў і беларусаў. Плануецца запрасіць з Нямеччыны прадстаўнікоў "Згуртавання былых жыхароў Ольштына". Было б няблага, калі б і з Беласточчыны прыехаў які-небудзь калектыў. Асабіста я запрасіў нашую паэтку Тамару Болдак-Яноўскую, якая будзе мець магчымасць азнаёміць аматараў літаратуры са сваімі новымі вершамі. Апроч таго і сам пастараюся як мага цікавей распавесці пра беларусаў Польшчы і, у прыватнасці, Ольштына.

Напрыканцы свайго допісу падзялюся яшчэ адной прыемнай навінай: святкаванні ў нашым горадзе ўважыць сваёй прысутнасцю дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры і мастацтва Багуміла Бердыхоўска.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК,**
**г. Ольштын**

# СВІНСТВА І ПАДРЫЎ

Праўду напісаў Уладзімір Клімюк з Плянты ў сваім допісе "Хто не любіць падпісчыкаў?" у 20 н-ры "Нівы". Піша ён, што "Ніва" заўсёды прыходзіць на пошту ў панядзелкі замест пятніцы. Гэта праўда: усе газеты, якія мы атрымліваем - і падпісныя, і для рознічнага продажу - паступаюць на пошту ў пятніцу, толькі няма сярод іх "Нівы". Відаць, хтосьці свядома прытрымлівае яе ў сябе, як крадзены тавар, каб пусціць толькі пасля нядзелі. А ведаем гэта, што летам на вёсцы работы многа і ў будзённы дзень на чытанне няма часу. Спачатку, як толькі з'явілася магчымасць прадаваць на пошце "Ніву", дык прызначаныя для гэтай мэты экземпляры нашага тыднёвіка пачалі прыходзіць у пятніцу, як і рэшта газет; для падпісчыкаў "Ніва" прыходзіла ў панядзелак. Але пасля нейкага часу "Ніву" для рознічнага продажу пачалі прысылаць так як і для падпісчыкаў: у панядзелак. Такі кальпартаж - гэта звычайнае свінства і падрыў.

Нашы гумарысты павінны хіба напісаць нейкі панегірык якому-небудзь чыноўніку - можа тады нешта палепшыцца?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**Частка XLV**

Развіваючыся ў сваіх гутарках з капіталістычнай тэмай, ані я, ані ніхто з чытачоў не здолее з ёю развітацца ў жыцці. Справа ў тым, што сацыялістычная сістэма, якая мелася стаць будучыняй свету, на нашых вачах становіцца яго мінулым. Праўда, трывала абараняюць сацыялізм Куба, Кітай, Паўночная Карэя і В'етнам, аднак і яны ва ўсё большай ступені прыстасоўваюць сваю эканоміку да капіталістычных прынцыпаў. Значыць, сацыялізм, які меўся быць вечнай сістэмай, аказаўся толькі гістарычным эпізодам. Зразумела, што людзі майго пакалення, якія якраз пры сацыялізме пазбыліся сялянскай галечы, атрымалі адукацыю, работу і кватэры, будуць з сантыментамі ўспамінаць сацыялістычнае мінулае. Аднак рацыяналізм прымушае нас жыць не ўспамінамі аб мінулым, а толькі роздумам аб будучым. Спаборніцтва паміж сацыялізмам і капіталізмам доказвае, што гэтая другая сістэма менш ідэалістычная, чым сацыялізм. Яна моцна абапіраецца на прагматызм і чалавечы эгаізм, якія заўсёды былі галоўным рухавіком узбагачэння.

Тэзіс сацыялізму, што чалавек здольны працаваць для іншых лепш, чым для самога сябе, аказаўся наіўным і нерацыянальным. Вера ў тое, што чалавек па сваёй натуры з'яўляецца альтруістам, здольным кахаць іншага чалавека болей чым самога сябе, вынікае з няведання




чалавечай натуры. Вынікаючая з гэтай веры канцэпцыя абагульнення маёмасці, калектывізацыі зямлі, поўнага атаясамлівання чалавечага „я” з чалавечым „мы” закончылася на нашых вачах крахам.

Капіталізм зышоў з зусім адваротнай тэзы аб тым, што чалавек з'яўляецца істотай эгаістычнай, што трэба даць яму поўную свабоду ў дзейнасці і імкненні да ўзбагачэння. Мэта дзяржавы заключаецца ў тым, каб пры дапамозе сістэмы кантролю і падаткаў частку маёмасці гэтага эгаістычнага чалавека забраць і прызначыць на тыя мэты, якія служаць усім людзям (значыць — усяму грамадству). Дзякуючы гэтаму, капіталізм становіцца сістэмай дэмакратычнай і справядлівай. Сказанае, аднак, датычыць толькі перадавых краін, тыпу Швецыі, Германіі, Англіі, Францыі, Канады, ЗША, Японіі. Яго нельга аднесці не толькі да многіх паўднёваамерыканскіх і афрыканскіх краін, але нават да Італіі, у якой несправядлівы падзел нацыянальнага багацця выступае ў вельмі яскравай форме.

Якім будзе капіталізм у Польшчы? Гэтае пытанне цікавіць кожнага польскага грамадзяніна. Пакуль што маем дачыненне да вялікіх афёр, камбінацый і паспалітых зладзействаў на вельмі розных ступенях грамадскай лесвіцы. У сувязі з гэтым не можам здзіўляцца, калі людзі пытаюць, ці ўваходзім мы сапраўды ў еўрапейскі дом, ці ў афрыканскі буш.

Ацэньваючы нашу сённяшнюю гаспадарчую сітуацыю, мусім памятаць, што працэс ператварэнняў у нас толькі што пачаўся, і што ў тракце гэтага працэсу паўсюдна мусяць выступаць скрыўленні і паталогіі. Патрэбны час. Людзі, аднак, не хочуць чакаць. Нецярплівяцца, хочуць мець усё і зараз. Праявамі такой паставы з'яўляюцца страйкі, блакады, галадоўкі. Удзельнічаюць у іх людзі не з прычыны сваіх амбіцыяў і фанабэрыяў, а толькі з тае прычыны, што прыцiснула іх бяда. Драма заключаецца ў тым, што ўсе гэтыя формы пратэсту не толькі не ліквідуюць бяды, але наадварот — яе паглыбляюць і павялічваюць. Людзі перакана용, што ўрад мае сродкі, але не хоча іх даваць людзям. Пратэсты маюць быць спосабам вырвання гэтых сродкаў з рук урада. Так людзі думалі пры Герэку і Ракоўскім, так думаюць і сёння. Але тых сродкаў не было ў 1970, 1981, 1989 гадах, няма іх і сёння. Нават калі ўрад дасць грошы страйкоўцам, то возьме іх назад у форме павышаных падаткаў і цэнаў, і такім чынам наша ўбоства не толькі не паменшыцца, але павялічыцца.

Нягледзячы на ўсе гэтыя камплікацыі, якія ў Польшчы будуць паглыбляцца і павялічвацца, адваротнага шляху няма. Усе мы асуджаны на тое, каб прымаць удзел у вялікім і неспадзяваным пераходзе ад сацыялізму да капіталізму. Пераход гэты будзе цяжкі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
Старонка для дзяцей

АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ

## ЦМОКІ

Прачытаўшы даволі шмат розных казак, міфаў і легенд, я заўважыў, што часта галоўнымі героямі ў іх выступаюць цмокі. Вось я і вырашыў абагульніць мае веды пра гэтых цікавых жывёл і падзяліцца імі з іншымі.

Цмокі, у большасці сваёй, жывёлы скрытныя, і таму іх даволі цяжка знайсці. Жывуць яны звычайна не абы дзе, а ў пэўных месцах. Таму веды пра гэта значна павысяць вашыя шанцы на сустрэчу з цмокам (калі вы яе сапраўды жадаеце). Агульнавядома, што цмокі напэўна не жывуць у пустыні, бо там вельмі горача і суха. Цмокі любяць вільгаць, таму трымаюцца паблізу вады. Вельмі часта пільнуюць яны чарадзейныя крыніцы і старыя, паўзабытыя студні. На Усходзе (бо існуюць два асноўныя віды цмокаў: усходні і заходні) цмокі любяць жыць у бурлівых рэках, на дне акіяна ці ў чорных хмарах. Часам можна ўбачыць, як цмок скача па хмарах у час навальніцы. Ад даўніх часоў (некаторыя цмоказнаўцы лічаць, што ад сярэдневякоўя) гэтыя жывёлы пазбягаюць людзей і хаваюцца ад іх у змрочных, брудных пячорах, альбо ў багнах, дзе цярпліва чакаюць здабычу... Так што калі вы трапіце ў адно з такіх месцаў, будзьце вельмі ўважлівымі. Цмок можа быць недзе побач! А калі ўжо вам давядзецца сустрэцца з цмокам сам-насам, дык трэба памятаць хаця б пра некаторыя яго звычкі. Гэта дапаможа вам перамагчы цмока ці, што больш верагодна, паспяхова... уцячы.

Цмок заходні — найбольш небяспечны від гэтых жывёл (хаця ёсць прыклады добрых заходніх цмокаў, як, напрыклад, Чырвоны Цмок Валійскі і Лагодны Цмок Ангельскі. Пра другога цудоўную казку напісаў Кенет Грэхэм). Заходні цмок — вялікі ласун, але ніколі, ці вельмі-вельмі рэдка спіць. Спецыялізуюцца заходнія цмокі на ахове скарбаў і таксама на выкраданні прыгожых прынцэс. Затое калі вам удасца пацалаваць заходняга цмока, ён можа абярнуцца прынцам ці прынцэсай, бо большасць заходніх цмокаў — зачараваныя людзі.

Цмок усходні звычайна не такі грозны і больш дружалюбны. Затое есць і п'е разоў у пяць больш за заходняга. Непапраўны лянівец і соня, цмок усходні можа спаць па некалькі месяцаў запар.

Але трэба памятаць, што пры спатканні з любым цмокам можна апынуцца ў небяспецы. Гэтая жывёліна адным сваім позіркам можа паралізаваць вас. Пры гэтым даволі добра дапамагае які-небудзь талісман, а яшчэ лепей — чарадзейная замова. Аднак, на ўсялякі выпадак, не глядзіце цмоку проста ў вочы. Прынамсі, пры першай сустрэчы...

Нават, калі цмок знаходзіцца далёка, ён можа быць небяспечным. Большасць заходніх цмокаў патыхае агнём, які можа спаліць усё жывое на адлегласці колькі дзесяткаў метраў. Каб быць у небяспецы перад такім цмокам, не лішне прыхапіць з сабой вогнетушыцель. Але агонь — яшчэ не самае горшае. Большасць цмокаў дыхае атрутай, і калі вы ўдыхнеце такое паветра, можаце і памерці! Каб забяспечыць сябе перад цмокам, трэба быць добра ўзброеным, не глядзець яму ў вочы і затрымліваць дыханне.

Вы можаце спытаць, а ці маюць цмокі якія-небудзь добрыя якасці? Так. Маюць. Але толькі забітыя. Калі з'есць хаця б кавалак цмокавага сэрца, вы пачнеце разумець мову звяроў і пту-

☞ Працяг на стар. 10



*Юстынка з Бярначчыны расказвае свайму дзядзьку Алесю пра страшнага-страшнага ваўка!* Фота Міры Лукшы

НІНА МАЦЯШ

## ЗАЛАТОЕ СЭРЦА

*Казка*

Жыў на свеце адзін чалавек. Нічым знешне не вылучаўся сярод іншых людзей, але ўсе ведалі, што ў яго грудзях - алавянае сэрца. На кожнага, хто сустракаўся з ім і пачынаў размову, нібы навальваўся нейкі цяжар, а з твару надоўга знікала ўсмешка. Людзі сталі пазбягаць чалавека з алавяным сэрцам, і неўзабаве ён апынуўся ў поўнай адзіноце.

А жыў у той мясціне яшчэ адзін чалавек. І хоць таксама нічым не вылучаўся сярод людзей, але ўсе ведалі, што ён валодае дзівосным скарбам - сэрцам з чыстага золата. Людзі вельмі шанавалі гэтага чалавека, побач з ім жылося лёгка і светла. Чалавек з залатым сэрцам заўсёды быў гатовы прыйсці на дапамогу кожнаму, хто трапляў у бяду. Таму ён заўсёды быў акружаны людзьмі.

Чалавек з алавяным сэрцам страшэнна зайздросціў чалавеку з залатым сэрцам. Зайздроснік нават спаць не мог спакойна, усё думаў, што б зрабіць яму ліхое. І нарэшце вырашыў забраць у яго слых, каб той ніколі больш не пачуў людской удзячнасці.

Як задумаў злы вядзьмак, так і зрабіў: аглух чалавек Залатое Сэрца. Цяжкія пакуты агарнулі яго: людзі хадзілі, варушылі вуснамі, смяяліся - але ў такой глыбознай цішы, што ажно рабілася страшна і звінела ў галаве. Цяжка было бедаку яшчэ і таму, што часта ён ніяк не мог здаўмецца, чаго людзі хочуць ад яго. Ён стаў пазбягаць людзей, а неўзабаве і зусім замкнуўся ў сваёй хаце.

А была ў Алавянага Сэрца дачка Сябелюбка. Калі яна нарадзілася, вядзьмак падарыў ёй чароўную палачку з бліскучым чорным наканечнікам. Дакранешся той палачкай да сэрца чалавека, і яно адразу ператворыцца ў халодную грудку волава.

І вось аднойчы, калі Залатому Сэрцу было асабліва цяжка на душы, перад ім з'явілася прыгажуня ў цудоўным убранні.

- Вазьмі мяне да сябе, добры чалавек! - папрасіла яна. - Няма ў мяне ні маткі, ні бацькі, на цэлым свеце няма да каго прыгарнуцца. Дай мне прытулак, вазьмі мяне ў дочкі, калі-небудзь я шчодра аддзячу табе за гэта.

Залатое Сэрца быў зачараваны прыгажосцю дзяўчыны. Ён ні пачуў ніводнага слова, але зразумеў, што яна нешта просіць, таму пільна ўзіраўся ў яе твар, у вочы, каб здагадацца, што ёй трэба. І чым дапытлівей узіраўся, тым яскравей бачыў, якія раўнадушныя, злыя вочы ў неспадзяванай госці, якія пагардлівыя рухі яе рук. Ён зразумеў, што яна нядобрая, і прагнаў дзяўчыну са свайго двара. Ён і не падазраваў, што гэта вядзьмак Алавянае Сэрца падаслаў да яго сваю Сябелюбку.

Сам жа Залатое Сэрца вырашыў ісці да людзей.

Калі прымуць - зноў да яго вернецца шчасце. А не прымуць - дык на людзях і паміраць лягчэй: жыць без іх ён усё адно не мог.

І толькі выйшаў у поле, як бачыць: б'ецца ў сіле жаўручок, вырвацца не можа. Залатое Сэрца разблытаў сіло, птушаня ўзвілося пад самае неба і залілося радаснай песняй у гонар свайго збавіцеля. Але ён не пачуў той песні і пакрочыў далей. Ідзе-ідзе, раптам бачыць: сядзіць на елачцы зайка і лапкамі слёзы ўцірае. Хацеў зайка елачку пераскочыць, ды засеў у голлі, вылезці не можа. Вызваліў Залатое Сэрца зайчыка, той шчасліва піскнуў "дзякуй!" і паімчаў дадому.

А Залатое Сэрца пайшоў далей. Бачыць: на дарозе, каля перакуленага воза з сенам мітусіцца дзядзька, а зрабіць нічога не можа - не хапае сілы адвярнуць воз. Залатое Сэрца моўчкі падышоў да селяніна і дапамог яму падняць колы. А калі глянуў яму ў вочы, то ўбачыў у іх столькі ўдзячнасці, што азмрочанасць яго як рукой зняло. З лёгкай душой папраставаў ён далей. І ад кожнага добрага ўчынку сэрца яго зіхацела яшчэ ярчэй. Усе, каму патрэбна была дапамога, ішлі на гэты чароўны бляск. І да Залатога Сэрца вярнуўся слых.

Калі ж вядзьмак Алавянае Сэрца даведаўся пра гэта, то лопнуў ад зайздрасці і злосці. А яго дачка Себялюбка ўцякла за трыдзевяць земель у трыдзесятае царства. Але яна не згубіла сваю чароўную палачку з бліскучым чорным наканечнікам, бо ніколі не выпускала яе з рук. Асцерагайцеся, каб вядзьмарка часам не дакранулася да вас, каб не ператварыліся вашы сэрцы ў грудкі халоднага волава!

*ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ*

**ФРАНЦІШАК СКАРЫНА**

1

У справах цудоўных
вялікага сына -
святло старажытнай
адметнай краіны.
Ён першадрукар,
ён прарок мудрых кніжак -
Францішак Скарына,
Скарына Францішак.

У чутым далёка,
шырока вядомым
ёсць подых, ёсць рэха
вясновага грому
і ёсць цудадзейна-
гаючая ціша:
Францішак Скарына,
Скарына Фран-ці-шак!

Жыве яго Слова -
ў ім дух Адраджэння,
малітва-замова
супроць адчужэння.
Хвала табе,
Маці святая - Краіна,
што ты нарадзіла
прамудрага сына!

2

Святло запаветаў
пранеслі вякі.
Далёкі Скарына,
ён блізкі такі!
Нібыта ікону,
яго мастакі
малююць з высокім натхненнем.
Праходзяць прад ім
пакаленні;
шануюць
свайго бога кнігі
адны,
пасевы ахоўваюць ад сатаны,
другія ж -
усё сатане аддаюць.
І той робіць поле ўрадлівае голым,
і людзі не жаць і не сеяць ідуць,
не ў храм іх дарогі і сцежкі вядуць,
а толькі на дзікае чортава кола...

3

Бог кнігі,
бязбожнікаў ён не карае,
не ганіць нікога і не дакарае,
а ўсё прапаведуе людзям любоў
да веры, да ведаў, сваіх каранёў.
Ён памятае
берагі Палаты...
Вяртаецца ўсё з забыцця і скажэння,
ён нам, доктар духу, нясе ачышчэнне -
Францішак Скарына. Святы.

*ВІКТАР ШВЕД*

**ЧАМУ НЕ ВЫКАПАЦЬ РЭПКУ?**

Аб "Рэпцы" казку бабуля
Чытае маленькай Улі.
Рэпку ўсе цягнуць заўзята
І доўга без рэзультату.

Раптам унучка малая
Чытанне бабулі спыняе:
- Цягнуць і цягнуць нясцынна,
А выкапаць рэпку павінны!

**КОТ НЕ ВЫКЛЮЧЫЎ МАТОРА**

Дрэмле на цёплай печы
На мышы паляўнічы.
Ён грэе свае плечы
І голасна мурмыча.

Пытае тату Колька:
- Мо наш каточак хворы?
А можа коцік толькі
Не выключыў матора?

**КУЛІНАРНАЯ КНІЖКА**

У кнігарні з мамай Мішка
Кніг шукае на паліцах.
Кулінарную ім кніжку
Прапануе прадаўшчыца.

- Працы менш напалавіну,
Калі ёю карыстацца.
- Мама дзве купіць павінна,
Дык зусім не будзе працы.

**ПАТРОС ТАТУЛЬКА ГАЛАВОЮ**

Хлопцы пытаюцца Ігната,
Што выйшаў з хаты блізкі плачу:
- Прызнайся, што сказаў твой тата,
Калі пасведчанне убачыў?

- А не сказаў ён мне нічога,
Патрос страшэнна галавою...
- Шкадуеш галавы старога?
- Ён галавою трос маёю!..

*ВАСІЛЬ ХАДАТОВІЧ*

## АРЭЛІ

Машы яшчэ і двух гадоў няма. Але яна ўжо добра размаўляе, ведае, што па тэлефоне трэба званіць доктару, калі баліць жывоцік, Дзеду Марозу, каб ён прынёс падарунак.

Болей за ўсё на свеце Маша любіць арэлі. Тата падсаджвае яе на лаўку, разгушквае, і яна, ухапіўшыся ручкамі за тонкія жалезныя пруты, то ўзлятае ўгору, то апускаецца ўніз. Аж рот раскрывае ад захаплення.

Неяк вечарам, калі сабраліся дамоў, Маша папрасіла:

— Тата, давай возьмем арэлі з сабой. Я буду з імі спаць.

— Не могуць, дачушка, арэлі пайсці з намі. Ім трэба дзяцей гушкаць.

Сумная прыйшла Маша дамоў, села за стол вячэраць. Есць кашу, а сама ўсё пра арэлі думае. Галодныя яны, мабыць, там, на двары. Трэба іх пакарміць.

Адклала Маша ўбок лыжку, ухапіла абедзвюх міску з кашай і — да дзвярэй.

— Дачушка, ты куды? — здзівілася мама.

— Арэлі хачу пакарміць.

Пераглянуліся мама з татам, не ведаюць, што рабіць. А потым тата кажа:

— Табе спаць пара, дачушка. Кладзіся, я сам пачастую арэлі. Яблыкаў ім занясу. Скажу, ты прыслала.

Назаўтра Маша зноў пайшла гушкацца. Арэлі без стомы ўзляталі над зямлёй, цешылі дзяўчынку.

— Тата, пачастуй яшчэ арэлі яблыкамі, — папрасіла Маша. — Яны такія добрыя.

— Абавязкова пачастую, дачушка, — усміхнуўся тата. — Бачыш, як стараюцца яны сёння.

Сапраўды, ніколі раней, здавалася, арэлі не ўзляталі так высока. Уверх — уніз! Уверх — уніз!.. Нібы дзякавалі Машы за пачастунак.



*Папугайчыкі вучняў з бельскай "тройкі" — Сара і Сальто.*
**Фота М. Ваўранюка**

## ЧЭРВЕНЬ

Лета прыйшло непрыкметна. Вось ужо і сады адцвітаюць. Асыпаецца бэз. З таполяў і асін ляціць пух. Ружовымі шапкамі ўпрыгожыліся кусты шыпшыны. Зацвілі язмін і каліна. Лугі ператварыліся ў пярэсты дыван. Цвітуць амаль усе лугавыя травы: белы рамонак, сіні мышыны гарошак, жоўты казялец і чына лугавая, ружовая канюшына. Зацвілі незабудкі, светнік, смолка, злакі — асяніца лугавая і цімафееўка.

Паступова сціхаюць у лесе спевы птушак. У іх адзін клопат — пракарміць пражэрлівае патомства. Дробныя птушкі ў час выкормлівання птушанят падлятаюць да гнязда сотні разоў у суткі, напрыклад, сініца — да 400, мухалоўка-валасянка — да 560 разоў. Пара шпакоў прыносіць сваім птушанятам больш чым 8000 адных толькі хрушчоў і іх лічынак. У другой палове чэрвеня большасць птушанят пакідае свае гнёзды і разам з бацькамі адпраўляюцца ў першае падарожжа па лесе.

У дуплах старых дрэў, за драўлянай шалёўкай сцен будынка з'яўляюцца дзіцяняты і кажаноў. Кожная самка прыносіць па 1-2 маленькіх, сляпых, голых дзіцянят, выкормлівае малаком. Дзён дзесяць самка не разлучаецца з нованароджанымі, якія ў час палёту вісяць, моцна ўчапіўшыся за саскі маці. Пазней кажаняты на час палявання маці застаюцца ў дуплах. Праз месяц яны ўжо здольныя самастойна лётаць.

У чэрвені гадуюць сваё патомства вожыкі і ваверкі, лісіцы і куніцы, выдры і норкі. У зуброў Белавежскай пушчы таксама павялічваецца сям'я. Маленькія зубраняты цiснуцца да зуброў і з цікавасцю пазіраюць навокал. Цяпер у Беларусі жыве больш за 300 зуброў.

Давайце пройдземся па лесе. Чуецца мілагучны посвіст: „Сплю-ю... сплю-ю..." Гэта пракрычала маленькая сава-сплюшка. „Ку-гу..." — ціха падала голас вушастая сава. Цікава назіраць за птушкамі на змярканні.

У Беларусі жыве больш за 10 відаў соў. Патрыярх савінага племені — пугач, птушка амаль з двухметровым размахам крыла. На жаль, іх з кожным годам застаецца ўсё менш, таму пугач узяты пад ахову і ўнесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Ёсць яшчэ і маленькая сава — вераб'іны сычык. Ён крыху меншы за шпака.

**А.КУРСКОЎ**

<u>ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ</u>

## СТАРАЖЫТНЫ АРНАМЕНТ

Арнамент - узор з рытмічна ўпарадкаваных элементаў для аздаблення твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ці архітэктурных збудаванняў. Вядомы арнамент разны, тканы, вышываны, маляваны і іншы. Адрозніваюць арнамент геаметрычны (ромб, круг, квадрат, сонечныя знакі, разеткі і г. д), раслінны, заамарфічны (жывёлы) і антрапаморфны (людзі). Арнамент насіў магічны характар і задавальняў эстэтычныя густы яго стваральнікаў. Ён зарадзіўся яшчэ ў эпоху позняга палеаліту. У эпоху неаліту дасягнула росквіту майстэрства аздаблення арнаментам глінянага посуду. Гаршкі ўпрыгожваліся наколамі канцом палачкі: косасеткавымі кампазіцыямі, многавугольнікамі, ромбамі з кручкамі. Асабліва багата аздабляўся венчык. У старажытнарускія часы посуд арнаментаваўся лінейным, лінейна-хвалістым, зубчата-грабенчатым, кропачна-ямачным і нагцявым арнаментам.

У X - XIII стагоддзях багата ўпрыгожваліся зброя, касцяныя накладкі на калчаны, ручкі нажоў, грабеньчыкі, абутак і адзенне. У асяроддзі сялян і значнай часткі гараджан бытаваў геаметрычны арнамент, а ў дружыннабаярскім побыце быў распаўсюджаны дэкор з раслінных і заамарфічных форм. Арнаментаваныя ручкі нажоў знойдзены ў Лукомлі (Чашніцкі раён), Масквічах (Браслаўскі раён); касцяныя накладкі вядомы ў Ваўкавыску, Навагрудку і іншых гарадах. У X - XIV стагоддзях папулярнымі былі медныя і бронзавыя пласцінчатыя арнаментаваныя бранзалеты. У X - XI стагоддзях была моднай геаметрычная пляцёнка з кропкай унутры ромбаў, што атрымлівалася пры перапляценні. У XII стагоддзі на змену плецѐнаму геаметрычнаму арнаменту прыйшоў арнамент з ромбаў, касых кратаў, зігзага з кропкамі ў цэнтры. У канцы XIII - пачатку XIV стагоддзя пры захаванні геаметрычнага арнаменту на бранзалетах з'яўляюцца элементы раслінная арнаментацыі. З пачатку II тысячагоддзя распаўсюдзіўся архітэктурны арнамент - упрыгожанні сцен і падлог у культавых і свецкіх пабудовах (Спаса-Еўфрасіннеўская царква ў Полацку, Барысаглебская ў Навагрудку, Каложская і Ніжняя ў Горадні, замкі ў Лідзе, Міры і іншыя).

**ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ**



## ЦМОКІ

☛ *Працяг са стар. 9*

шак. Калі выкупацца ў цмокавай крыві, дык такая ванна зробіць вас літаральна „бранiраванымі". Зубы цмока, але толькі нашытыя на вопратку з казлінай скуры, абераґаюць людзей ад злых чараў. Тлушч, які знаходзіцца вакол сэрца, дапамагае ў судовых справах. З вачэй робіцца спецыяльнае зелле, што дадае адвагу.

Як бачыце, цмок звычайна робіцца карысным жывёлай толькі пасля смерці, але дзе знайсці такога, які б дазволіў сябе забіць? Да таго ж цмокі напэўна змешчаны ў „Чырвонай кнізе", аб чым яскрава сведчаць словы Міры Лукшы: „Цмокі ў нас ужо не вядуцца. З незалежных жывёл засталіся адно каты ды вераб'і." Але я ўсё ж спадзяюся, што можна яшчэ дзе-нідзе адшукаць у нашых краях гэтых вельмі цікавых і таямнічых жывёл.

Дарэчы, з гонарам хачу адзначыць, што нашыя беларускія цмокі (гл. казкі „Хвёдар Набілкін і сапраўдныя асілкі" і „Удовін сын") з'яўляюцца, бадай, самымі небяспечнымі сярод цмокаў заходніх. Ну, дзе яшчэ вы знойдзеце столькі трох, шасці- і нават дзевяцігаловых цмокаў? Да таго ж у некаторых з іх на месцы адсечанай галавы адразу вырастае новая, а то і дзве. Ведай нашых!

*РЫГОР ІГНАЦЕНКА*

## ЦЕСЛЯРЫ

Люблю адпачываць на ўзлессі. Тут мне кожнае дрэва знаёма. Ведаю нават, дзе які сучок тарчыць, дзе губка расце.

У асіньцы, што туліцца да векавой хвоі, ёсць дупло. Летась у ім стракатыя дзяцел жыў. Падыду, бывала, да асінкі — тук, тук, — паляпаю тронкам нажа па ствале. Высуне дзяцел з дупла галоўку ў чырвонай цюбецейцы і незадаволена: "Чык, чык!" Маўляў, што трэба? Ціхенька, каб не турбаваць гаспадара, адыду бок. Пяцёра дзетлянятак выгадавалі тут клапатлівыя бацькі.

Вясною я зноў вырашыў сям'ю дзятлоў адведаць. Тук, тук! — ляпаю па дрэве. Вылазіць. Толькі, вось дзіва, не мой знаёмы дзяцел, а круцігалоўка. Села на галінку побач і давай галавой круціць, непрыгожа крыўляцца.

— Няўжо, — пытаюся я ў лесніка, дзеда Зміцера, — малая круцігалоўка дужага дзятла з дупла прагнала?

— Ды не, — смяецца ён. — Гаспадар сам яго пакінуў. Дзятлы двойчы не селяцца ў адным дупле. Штогод сабе новыя кватэры будуюць. А старыя іншым птушкам пакідаюць — удодам, гарыхвосткам, совам... Бачыш, будуюць лясным насельнікам жыллё.

Дык вось чаму дзятлоў цеслярамі завуць.

*МІРА ЛУКША*

## КАРАЕД

*Верш для дзяцей, якія вучацца вымаўляць "р".*

Стары караед
Угрызся ў кару.
У карычневым фраку
Паўзе угару.
— Хто тут дармаед!? —
Крычыць на "тук-тук". —
Не дарма грызу
Старую кару,
Бурую ў кары
Крывы калідор.
А брыдка гаворыць
Пра мяне увесь бор!

## ЛЯНІВЫ ДЖЭК

*АНГЛІЙСКАЯ КАЗКА БЕЗ МАРАЛІ*

Жылі сабе ў бедным нізенькім доміку хлопчык Джэк і яго маці. Маці зараблялa на жыццё тым, што мыла людзям бялізну. А Джэк быў такі лянівы, што цэлы дзень ляжаў ды грэўся на сонейку. Калі на двары было халодна - сядзеў на пячы. Маці ніяк не магла прымусіць яго працаваць. Але аднойчы яна сказала, што выганіць Джэка з дому, калі ён не пачне працаваць.

Пагроза падзейнічала, і Джэк наняўся на адзін дзень да селяніна. У канцы дня гаспадар заплаціў хлопцу пені. Джэк раней ніколі не трымаў у руцэ грошай, і пераходзячы рэчку, манету згубіў.

- Які ты дурань! - разззлавалася маці. - Трэба было пакласці грош у кішэню!

- Наступным разам я так і зраблю, - абяцаў Джэк.

Наступнага дня, а была гэта серада, хлопец наняўся да пастуха, які абяцаў яму за працу збан малака. Джэк увапхнуў посуд у вялікую кішэню, але па дарозе дадому малако разлілося.

- Божа ты мой! - загаласіла старая. - Трэба было збан несці на галаве!

- Так і зраблю наступным разам.

Джэк зноў наняўся да селяніна, які заплаціў яму маккім сырам. Хлопец сыр паклаў на галаву і пайшоў дадому. Пакуль дайшоў, сыр на галаве растаў.

- Які ж ты дурань! - пачала выгаварваць яму маці. - Сыр трэба несці асцярожна ў руках!

- Добра, мама, так зраблю наступным разам.

Наняўся Джэк да пекара, які за працу даў яму вялікага ката. Узяў Джэк запла-ту і панёс дадому, але кот пачаў яго царапаць, і хлопец выпусціў яго з рук.

- Ах, які ты дурань! - узрушнула маці. - Трэба было ўзяць ката на вяроўку і прывесці.

- Наступным разам абяцаю так зрабіць.

У суботу Джэк наняўся да мясніка, які ўзнагародзіў хлопца ладным кавалкам мяса. Джэк прывязаў да мяса вяроўку і пацягнуў дадому. Вядома, мяса змарнавалася. Маці вельмі разззлавалася на Джэка, бо назаўтра была нядзеля, а ў кухні мела толькі капусту.

- Дурань з дурняў! - закрычала на Джэка. - Мяса трэба было несці на плечах!

- Так і зраблю наступным разам.

У панядзелак Джэк наняўся да жывёлагадоўцы, і той даў яму за працу асла. Джэк быў дужы хлопец, але асла цяжка было яму падняць. Нарэшце, аднак, здолеў гэта зрабіць, і паволі рушыў дадому.

Па дарозе жыў вельмі багаты чалавек, у якога была адзіная, глуханемая дачка. Дзяўчына была вельмі прыгожая, але ў жыцці ніколі не смяялася. Дактары сказалі, што дзяўчына паправіцца толькі тады, калі засмяецца. Многія прабавалі рассмяшыць хворую дзяўчыну, але безвынікова. Нарэшце, бацька паабяцаў аддаць дачку замуж за таго, хто прымусіць яе ўсміхнуцца.

Калі Джэк валокся з аслом па дарозе, дзяўчына якраз глядзела ў вакно. Ногі беднага асла тырчалі ў бакі, і выгляд у абоіх падарожнікаў быў такі смешны! Дзяўчына разрагаталася, і адразу пачула, і набыла здольнасць размаўляць. Бацька, вядома, вельмі ўзцешыўся і, як абяцаў, аддаў дачку замуж за Джэка. Такім чынам, Джэк раптам зрабіўся багацеем і не мусеў больш наймацца працаваць.

Пераклаў
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЦВЯТОК РАДЗІМЫ ВАСІЛЬКА...

Васілёк ці кветка Кентаўра (*Centaurea cyanus* L.) — гэта аднаці двухгадовая расліна, якая расце ў Еўропе і Азіі. У Польшчы сустракаецца на абшары ўсёй краіны.

Васілёк, праўду кажучы, гэта тыповае пустазелле, якое часта расце сярод азімага збожжа, а таксама на абочыне дарог. У васілька вузкае лісце і разгалінаванае сцябло, якое расце да вышыні 80 см. Сінія кветкі сабраны ў кошычак на канцы сцябла. Часамі кветкі бываюць белыя, ружовыя або карычнева-чырвоныя.

У адной з украінскіх легенд расказваецца пра маладога аратага Васіля, якога пакахала ўсім сэрцам русалка. Пачала клікаць яго да сябе ў вадзяную стыхію. Калі зразумела прыгажуня, што хлопец не можа кінуць родную зямлю, абярнула яго ў скромную блакітную кветку. І спачуваючы гэтаму хлопцу, які стаў ахвярай чараў, людзі назвалі кветку яго іменем — васілёк.

А вядомы шведскі батанік Карл Ліней прысвоіў васільку навуковую назву „кентаўрэа цыанус" у гонар міфічнага кентаўра старажытных грэкаў Хірона — істоты з конскім тулавам і галавой чалавека, упрыгожанай спадаючай на грудзі барадой. Хірон ведаў пра надзвычайную здольнасць васілька загойваць раны і навучаў свайму майстэрству многіх сыноў багоў, сярод якіх быў і сын Апалона Асклепій, які пазней стаў патронам медыцыны. А „цыанус" па-лацінску значыць „сіні".

Пустазелле „васілёк" губіць пасевы і прыносіць шмат непрыемнасцей жывёлагадоўцам, паколькі мае здольнасць раздражняць слізістую абалонку рота ў кароў, а ў коней выклікае хваробы страўніка.

Аднак жа ярка-сінія кветкі васілька з даўніх часоў вядомы і сваімі лячэбнымі ўласцівасцямі. У народнай медыцыне іх прымянялі пры запальных станах вачэй, пры тэмпературы, выкліканай прастудай, імі выводзілі барадаўкі і г.д.

У адным са старажытных рукапісаў XVII стагоддзя „О перепущении вод" падаецца такі вопыт лячэбнага выкарыстання гэтай расліны: „Емлем семя васильков толчено, присыпаем к бородавицам, тако корень из них вытянет и их истребит, потом николи же не растут на том месте".

Кветкі васілька, вядомага ў народных гаворках і пад многімі іншымі назвамі (па-беларуску найбольш распаўсюджана назва „валошка"), падсыпалі ў табаку для паляпшэння арамату, а ў сумесі з іншымі раслінамі — зеллем крапівы, кветкамі наготкаў, лісьцямі грэцкага арэха, зеллем хвашчу, ваўчкоў і братак — васілёк выкарыстоўваюць пры хранічным фурункулёзе, пры захворваннях печані, парушэннях функцыянавання нервовай сістэмы.

У навуковай медыцыне кветкі васілька выкарыстоўваюцца ў асноўным у якасці мачагоннага сродка.

У лячэбных мэтах збіраюць у чэрвені зацвітаючыя кошычкі кветак, а пасля выскубваюць з іх адзіночныя язычкі кветак, што знаходзяцца на краях кошычкаў, і сушаць іх хутка пад навесамі з добрай вентыляцыяй, а яшчэ лепш у ацяплямай сушарні, паколькі пры павольным сушэнні кветкі бледнуць. Сухую сыравіну (*Flos Cyani*) перахоўваюць у цёплым месцы, у шчыльнай упакоўцы. У іншым выпадку кветка траціць не толькі колер, але і лячэбную моц.

Водныя экстракты з кветак васілька павялічваюць часамі нават у некалькі разоў колькасць выдзяляемай мачы — тым больш, чым больш гэты фізіялагічны працэс быў затарможаны.

Адвары з кветак васілька п'юць таксама пры хранічных хваробах нырак, спалучаных з недастатковым выдзяленнем мачы і ацёкамі, якія былі выкліканы затрыманнем вады і солі ў арганізме. П'юць гэтыя адвары нават пры каменнях у нырках, а ў мяшанцы з іншымі зёлкамі — пры хваробах жоўцевага пузыра.

Знешне адвар з кветак васілька прымяняюць у выглядзе прымочак пры запаленні павек, а таксама пры негатыўнай рэакцыі на інтэнсіўнае сонечнае прамяняванне, ці прамяняванне з тэлевізійных экранаў. Апрача таго, ім змываюць скуру галавы пры перхаці і грыбковых захворваннях.

**Адвар з васількоў**

1 лыжку кветак заліць 1 шклянкай кіпетню і напарваць іх 15 мінут пад покрыўкай. Адвар напарваць яшчэ 15 мінут, зняўшы яго з агню, і працадзіць. Піць 2 разы ў дзень па паўшклянкі паміж ядою ў якасці мачагоннага сродка пры запальных хваробах нырак. Гэты самы адвар можна прымяняць у якасці прымочак для вачэй, а таксама можна націраць ім галаву.

**Адвар для вачэй**

Змяшаць 4 лыжкі кветак васілька, 3 лыжкі зёлак цяцюшніка (świetlika) і 2 лыжкі кветак рамонка. Заліць 2 лыжкі сумесі 1 шклянкай кіпячай вады і напарваць пад покрыўкай 15 мінут. Зняць з агню, напарваць яшчэ 15 мінут і працадзіць. Прыкладаць цёплыя прымочкі да вачэй пры запальных станах некалькі разоў на працягу дня.

**ЭСКУЛАП**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мой муж кінуў мяне і два гады жыў з іншай жанчынай. Зусім была яна яму свет засланіла. І вось даведваюся я, што і тую бабу ён кінуў. Цяпер жыве ў сваіх бацькоў. Я спадзяюся, што мо ён вернецца да мяне і дзяцей (разводу мы не бралі), але, відаць, пакуль што яму гонар не дазваляе. Сняцца мне нейкія дзіўныя сны, якія могуць штосьці канкрэтнае абазначаць.

Вось, напрыклад, такі сон. Быццам мы з мужам ідзем у лес за грыбамі. У лесе па-веснавому хораша: паветра празрыстае, зелень мае светлае адценне, пахне. Мы з мужам трымаем у руках кошычкі. Раптам я заўважыла, што пад адным дрэвам з моху вылазяць маладзенькія баравікі. Яны на доўгіх ножках (як з моху), невялічкія, але здаровенькія. Я вырвала іх, палажыла ў кошык, ідзем далей. Я ведаю, што тут ёсць грыбы. Кажу мужу, што назбіраем сёння шмат грыбоў.

А быў яшчэ сон пра вожыкаў. Быццам я ела нейкае мяса, а гэта былі вараныя вожыкі. Але былі яны невялічкія, прыблізна такія, як слімакі.

Што гэтыя сны мне прадвяшчаюць?

**Ганна**

Ганна! Можа, твой муж і вернецца да вас. Справа ў тым, што першы твой сон (пра грыбы) гаворыць аб нейкім шчаслівым каханні. А ты ж была ў лесе са сваім мужам, было свежа — зелена, празрыста і пахуча. Усё гаворыць за тое, што бадай вернецца твой муж.

А што датычыць другога сну, дык вожык у сне таксама абазначае нешта падобнае. Менавіта — сустрэчу са старым прыяцелем. Хаця твае вожыкі не былі жывыя, а былі вараныя, аднак жа абазначаюць для цябе толькі добрае. Кепска было б, калі б ты ела сырое мяса.

**АСТРОН**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РЫБА ПА-СУРСКУ**

Прадукты:

*30 дэкаў філе рыбы,*
*10 дэкаў булкі,*
*паўшклянкі малака,*
*30 дэкаў бульбы,*
*1 яйка,*
*молатыя сухары,*
*тлушч.*

Рыбу прапусціць праз мясарубку. Дадаць адціснутую, раней намочаную ў малацэ булку (малака не выліваць). Бульбу зварыць і стаўчы. Рыбу і пюрэ старанна перамяшаць, зрабіць катлеты. Катлеты паніраваць у яйку, змешаным з малаком, і молатых сухарах. Смажыць у вялікай колькасці алею.

**ГАСПАДЫНЯ**

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 3. звязаны пук зжатых сцёблаў збажыны, 8. раён Польшчы паміж Мазоўшам і Памор'ем, 9. раздзел фізікі, 10. роднасная каню жывёла з доўгімі вушамі, 11. каштоўнасці, 13. падбярозавік, бабка, 15. глыбокая яма з якой вада, 16. радыёлакатар, 20. тысяча метраў, 22. тысячная часць тоны, 23. жыхар Стамбула, 27. чарамоpскі горад, дзе нарадзіўся Чэхаў, 29. жывёла з доўгай шыяй, 30. конаўка, 31. металічны абруч, нацягнуты на кола, 32. былая мера зямлі (каля 21 гектара), 33. плоскі кавалак дрэва, 34. ліпкае рэчыва,



**Уніз:** 1. рака ў Фінляндыі, 2. крылкiвая спрэчка, 4. спіртны напітак, настоены на ягадах або травах, 5. частка саней, 6. ахоўнік, абаронца, 7. адбівае, паглынае або пераўтварае выпраменьванне энергіі, 12. прыбор, які запісвае змены атмасфернага ціску, 14. горад між Вільняй і Варшавай, 16. прыродны вадаём, якім цячэ вада, 17. ствол агнястрэльнай зброі, 18. жыхар Афрыкі, 19. недабраякасны тавар, 21. настойлівая цяга, парыў, 24. умова, узаемная дамоўленасць, 25. Эліза, польская пісьменніца, 26. колькасць экземпляраў друкаванага выдання аднаго выпуску, 27. прылада для сячэння, 28. Яраслаў, чэшскі пісьменнік (1883-1923).

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з 17 н-ра: жаба, бяда, дыбы, Баку, рыба, бура, зубы, зубр, быль, Луба, буда, дроб, боль, баба, арба, шваб.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі** і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

